БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 30 (13562)

20 — 26 ліпеня 1992 года

Кошт 3 рублі.






27 ліпеня. У гэты дзень два гады таму быў абвешчаны дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Пазней, у верасні 1991 года, мы атрымалі свой Дзяржаўны сцяг і герб. Цяпер чакаем новы Дзяржаўны гімн. Цяжка сказаць, чаго болей - смутку ці радасці — прынеслі першыя гады самастойнасці народу Беларусі. Але ў панядзелак у нас будзе Свята. Людзі ўскладуць кветкі да помнікаў і абеліскаў, а ў Дзяржфілармоніі з гэтай нагоды адбудзецца святочны канцэрт.

**Што думаюць пра 27 ліпеня паэт Сяргей Законнікаў, сакратар ЦК СМБ А.Фядута і былы "афганец" А.Манкевіч, вы даведаецеся на старонцы**

**2.**

*А мемуары былога старшыні рады Беларускай народнай рэспублікі В.Жук-Грышкевіча "25-га сакавіка" чытайце на старонцы*

14.

## ПРАЦА — НЕ АБАВЯЗАК, А ПРЫВІЛЕЯ?

Думаю, ніхто не пажадае зараз апынуцца за прахадной завода, за дзвярыма ВНУ ці іншай установы ў выніку скарачэння штатаў, а дакладней — беспрацоўя, таго, што яшчэ ўчора мы ў адзін голас называлі "перажыткам капіталізму".

У Савеце Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі на праспекце Машэрава, 21 у Мінску — ажыўленне з раніцы і да позняга вечара. Людзі ідуць сюды, каб знайсці абаронцаў сваіх законных правоў на працу. Ужо сёння спынены дзесяткі цэхаў і ўчасткаў на Мінскім трактарным заводзе і Баранавіцкім заводзе станкапрылад, на віцебскіх "Эвістары" і заводзе імя Кірава, на аршанскім "Чырвоным барацьбіту" і полацкім "Вымяральніку"... Рабочыя тут адпраўлены ў адпачынак. Аднак неўзабаве ж пара водпускаў скончыцца і тады... пачнецца тое самае скарачэнне штатаў.

Дапамогу ж ад дзяржавы па беспрацоўю зможа атрымаць далёка не кожны. Ужо цяпер з 7 тысяч чалавек, якія звярнуліся па яе, аформлены як беспрацоўныя толькі 5400. Астатнім было адмоўлена.

**А.МЯСНІКОЎ.**

## "МАЗы" — КАЛГАСАМ

Набліжаецца пара ўборкі. Перад вёскай усё вастрэй паўстае праблема няхваткі машын. А дапамагчы ім у гэтай бядзе можа толькі горад. З гэтай нагоды генеральная дырэкцыя Мінскага аўтамабільнага завода прыняла пастанову, згодна з якой дзвесце новенькіх "МАЗаў" па зніжаных цэнах будуць прададзены калгасным і саўгасным гаспадаркам, якія адчуваюць вострую патрэбу ў тэхніцы. Чым быў выкліканы такі шырокі жэст?

З просьбай пракаменціраваць гэты факт мы звярнуліся да Валянціна Аркадзьевіча Гурыновіча, намесніка генеральнага дырэктара ВА "БелаўтаМАЗ", які адказаў, што такі крок накіраваны на тое, каб дапамагчы калгасам. А таму дзвесце машын будуць прададзены прыкладна за 640 тысяч рублёў кожная (у той час, як поўны кошт адной машыны — 953 тысячы). Як бачым, у наш час, калі на ўліку кожная капейка, такая дапамога акажацца вельмі і вельмі істотнай.

В.А.Гурыновіч дадаў, што машын па зніжанай цане не хопіць для ўсіх жадаючых. Але факт ёсць факт. І іншым прадпрыемствам таксама пажадана было б падтрымаць ініцыятыву "мазаўцаў".

# Стоп-факт

## ТАКСІ НА МЯЖЫ... ВЫМІРАННЯ

Вось ужо некалькі месяцаў жыхары і госці Мінска (ды і іншых беларускіх гарадоў) шарахаюцца ва ўсе бакі ад паслуг таксістаў: палохаюць жахлівыя цэны. Гэта і нядзіўна, таму што тарыфы на праезд проста жудасныя, нават пры сённяшніх цэнах (пасадка — 6 рублёў, 1 км праезду — 6 рублёў, гадзіна прастою ў кліента — ажно 60!). Але такія тарыфы, як выявілася, існуюць не ўсюды.

Так, адміністрацыя аўтапарка № 3 г.Барысава вырашыла пакуль што ўстрымацца ад увядзення такіх высокіх цэн за праезд у таксі. Як паведаміў Аляксандр Іванавіч Лобан, намеснік дырэктара аўтапарка, прычына такой асцярожнасці — страта пасажыраў у перспектыве і невыкананне таксістамі плана. Таму абслугоўваюць людзей тут пакуль што па старых тарыфах (пасадка ў таксі і праезд аднаго кіламетра — па 4 рублі, а гадзіна прастою ў кліента — 40 рублёў). У ліпені вырашана было крыху павялічыць план, каб паменшыць страты прадпрыемства. "Калі мы павысім цэны, — сцвярджае А.І.Лобан, — людзі пабягуць да ўладальнікаў прыватных машын, якія прапануюць свае паслугі за 4—5 рублёў (за кіламетр). А мы застанёмся ні з чым. Але калі цэны на паліва, запчасткі, шыны будуць расці, то са жніўня ўсё ж новыя 6-рублёвыя тарыфы прыйдзецца ўвесці, інакш мы проста загінем".

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

## ДАЕШ "АЛЬТЭРНАТЫВУ"?

У Барысаве паўгода таму, акрамя заводскіх шматтыражак, была толькі адна газета — "Адзінства" — орган райсавета народных дэпутатаў. Але калектыў гэтай газеты не падтрымаў справай маналітнасць назвы і ў хуткім часе частка журналістаў аддзялілася. Так з'явілася незалежная барысаўская газета "Альтэрнатыва". Глеба для стварэння новых выданняў, падобна на тое, аказалася ўрадлівай, і вось у пачатку ліпеня гэтага года ўпершыню пабачылі свет "Борисовские новости". Калі першыя дзве з вышэйназваных газет займаюць нейкія палітычныя пазіцыі, то "БН" узялі курс на асвятленне свецкага жыцця, тут вырашана змяшчаць матэрыялы "пра ўсё".

## СВЕТ У КРОПЛІ РАСЫ

21 ліпеня ў Мінску, у Доме мастацтваў, адбылося адкрыццё выставы, якая аб'яднала творы двух выдатных нямецкіх мастакоў — фатографа Петэра Медзе і скульптара Хейнца Кнефелькампфа. Творчасць іх аб'ядноўвае адна рыса: і адзін, і другі імкнуцца знайсці і паказаць у малым касмічныя формы, раскрыць свет замкнутай прасторы, праз мікрасвет вывесці чалавека да макрасвету.

Прадстаўляе выставу фонд "Дзецям Чарнобыля".

**З.ЛУКАШУК.**

## "КІНА НЕ БУДЗЕ?!"

"З усіх мастацтваў найважнейшым для нас з'яўляецца кіно!". Так сказаў сам Ленін, а транспаранты з гэтымі словамі ўпрыгожвалі і ўпрыгожваюць яшчэ і сёння сельскія клубы і дамы культуры, гарадскія кінатэатры і нават алеі паркаў.

Вось мы і вырашылі пацікавіцца: чым жыве "важнейшае з мастацтваў" сёння, ва ўмовах рынку, прыватызацыі, а галоўнае — дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь. І адкрылася карціна, якую інакш як жахлівай не назавеш.

На кінастудыі "Беларусьфільм" цішыня. Зачынена на замкі большасць кабінетаў і павільёнаў. "Забастоўка", — падумалася адразу. "Не", — адказаў вахцёр. "Творчы калектыўны водпуск?" — "Таксама не". Дык што ж?

Аказваецца, беларускія "кіношнікі" — на раздарожжы. Падхапіўшы ў свой час прынцыпы гарбачоўскай перабудовы (прабач, чытач, тут патрэбен каментарый: маецца на ўвазе, вядома ж, Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, а не дырэктар кінастудыі "Беларусьфільм" Уладзімір Яфімавіч Гарбачоў), тут таксама вырашылі падзяліць спачатку маёмасць. У выніку замест "Беларусьфільма" з'явіліся тры самастойныя студыі мастацкага кіно — "Дыялог", "Кадр" і студыя імя Тарыча. Здаецца, не так і дрэнна гэта. Але вось разваліўся Саюз ССР, а з ім — і Дзяржкіно краіны. Урад Беларусі змог выдзеліць кінастудыі ўсяго толькі 32 мільёны рублёў (на цяперашні час гэтага хопіць толькі на тры кінакарціны), і паколькі іх, гэтыя грошы, падзяліць ужо практычна немагчыма, названыя вышэй студыі зноў пабеглі пад адзін дах...

Дык што атрымліваецца: няўжо, як кажуць у народзе, "кіна не будзе?" "Будзе, але не так хутка!", — цвёрда паабяцаў мне і чытачам "Чырвонай змены" адзін з чыноўнікаў "Беларусьфільма", які чамусьці пажадаў, каб імя і прозвішча яго не называлі...

Кіно!

А вось і прыемная навіна. Урад рэспублікі знайшоў яшчэ адну магчымасць і мэтавым прызначэннем выдзеліў "цэлы" мільён для дубліравання на беларускую мову мультыплікацыйных фільмаў.

Уяўляеце: незабаве з экрана "загаворыць" па-беларуску Воўк і Заяц, Сцяпашка і Віні-Пух.

Кіно?..

Кіно!!!

**А.МЯСНІКОЎ.**




# Неруш

## ХВОРЫЯ ВАДАЁМЫ

Жыхары сталіцы даўно ўжо заўважылі, напэўна, як вада ў Свіслачы становіцца менш і менш празрыстай. А ў апошні час на паверхні яе з'яўляецца ўсё больш усялякіх водарасцей. А прычына даволі празаічная — з-за недахопу энергіі не працуе адна з трох помпаў на вадапомпавай станцыі Вілейскага вадасховішча, адкуль вада падаецца ў Мінск і навакольныя вадаёмы. Як паведамілі ў гарадской санэпідэмстанцыі, вынікі праверкі паказалі, што ў сталічных і навакольных вадаёмах утрыманне кішэчнай палачкі перавышае норму ў 24 разы. Даследаванні вады на хваробатворныя мікробы таксама не прынесла суцяшальных вынікаў. У горадзе рэгіструецца да 300 кішэчных атручванняў на тыдзень. Значная частка з іх — па прычыне забруджвання вады. Па той жа прычыне забаронена купанне ў забруджаных вадаёмах. Што датычыць падачы вады ў кватэры, то тут жыхары горада могуць супакоіцца: 2/3 вады падаецца з падземных крыніц, астатняя — са спецыяльнага вадаёма Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Усе гэтая вада, якая праходзіць праз спецыяльную ачышчальную сістэму, адпавядае патрабаванням, што прад'яўляюцца дзяржаўным агульнасаюзным стандартам.

*Анонс* **УВАГА! НЕ ПРАЙДЗІЦЕ МІМА!** *Анонс*

Беларускае таварыства інвалідаў па зроку і часопіс "Зрок" сумесна з Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй РБ у кастрычніку-лістападзе гэтага года праводзяць дабрачынныя тэлеаўкцыёны "Ад сэрца да сэрца", сродкі ад якіх пойдуць на будаўніцтва першага ў рэспубліцы рэабілітацыйнага цэнтра для невідушчых.

БелТІЗ налічвае больш за 19 тысяч чалавек. Штогод да 600 грамадзян рэспублікі страчваюць працаздольнасць, атрымліваючы інваліднасць па зроку. Гэтым людзям вельмі неабходна псіхалагічная, працоўная рэабілітацыя — адаптацыя да новых няпростых умоў жыцця. Будаўніцтва, пачатак якога запланаваны на 1992 год, пад пагрозай зрыву ў сувязі з яго катастрафічным падаражэннем. БелТІЗ не ў стане ў адзіночку весці гэта жыццёва важнае будаўніцтва. Неабходна фінансавая дапамога.

Просім вас адгукнуцца на наша запрашэнне і ахвяраваць у фонд Рэспубліканскага рэабілітацыйнага цэнтра для тых, хто не бачыць, прадукцыю вашага прадпрыемства або стаць спонсарам тэлеаўкцыёну. Ваш удзел будзе ўзнагароджаны тэлевізійнай рэкламай.

Спадзяёмся, што вы не застаняцеся абыякавымі да чужой бяды.

Чакаем вашай заяўкі на ўдзел да 15 жніўня г.г.

*Адрас: 220004, г.Мінск, вул.Вызвалення, 9, тэл.26-88-88, 26-86-00.*

*Разліковы рахунак: дырэкцыя РРЦ БелТІЗ: 200609233 у гарадской дырэкцыі Мінскбізнесбанка ў г.Мінску, МФО 153001764.*

*Валютны разліковы рахунак таварыства: 069070080 001 у Знешэканомбанку г.Мінска, МФО 153001226.*

**А.І.НЯТЫЛЬКІН,**
народны дэпутат
Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь.

**А.Г.СТАЛЯРОЎ,**
старшыня Нацыянальнай
дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі
Рэспублікі Беларусь.

# Нацыянальны архіў

## Не — ідэалагічнай акупацыі

14 ліпеня ўправа маладзёжнай беларускай арганізацыі Выбранецкія шыхты прыняла пастанову, у якой прапанавала звярнуць увагу грамадскасці на ідэалагічную акупацыю Рэспублікі Беларусь з боку суседніх дзяржаў. Найпершая задача — вызваленне духоўнае, разбурэнне міфа пра спрадвечную беларускую рахманасць і "плугаватасць". Вяртанне да каранёў дапаможа даведацца, зразумець і абнавіць нашу сістэму пабудовы дзяржавы і старажытнага нацыянальнага згадвання, дзякуючы якой захаваны сёння наш этнас і яго асаблівасці.

## Радасць у смутку

Днямі Яго Святасць Алексій II, найсвяцейшы патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі, благаславіў будаўніцтва на Беларусі Храма-помніка ахвярам чарнобыльскай катастрофы ў гонар Іконы Боскай маці "Всех скорбящих радостей".

Фінансаванне ўзялі на сябе Мінскі аўтазавод, 407-ы завод, іншыя прадпрыемствы і арганізацыі. Прыносяць грошы з небагатых пенсій і прыхаджане, у асноўным, бабкі ды дзядкі. І хоць будынка яшчэ няма, багаслужэнні тут, на вуліцы Прытыцкага ў Мінску, адбываюцца кожную нядзелю.

**А.МЯСНІКОЎ.**

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Сяргей ЗАКОННІКАЎ, паэт:*

– Якія пачуцці выклікае ў мяне Свята незалежнасці? Вядома, самыя станоўчыя. Але пакуль што наша незалежнасць не напоўнена канкрэтным зместам ні ў галіне эканомікі, ні ў галіне культуры. І кожны беларус павінен імкнуцца рабіць усё магчымае, каб ажыццявіць гэта. Тыя ж, хто працуе ў галіне культуры, літаратуры, павінны давесці да людзей, што ў нас ёсць багатая духоўная спадчына, прыгожая родная мова.

*Андрэй МАНКЕВІЧ, намеснік старшыні Мінскай асацыяцыі ветэранаў вайны ў Афганістане:*

– Шчыра кажучы, менавіта ў мяне гэтае свята ніякіх асаблівых патрыятычных пачуццяў не выклікае. Мне здаецца, што дзяржаўны суверэнітэт існуе толькі на паперы. Для мяне, зрэшты, як і для многіх ветэранаў Афганістана, амаль нічога не змянілася. Я наогул не адчуваю, што жыву ў самастойнай краіне, якая завецца Беларуссю. Мне здаецца, што значная колькасць людзей зусім не ведае пра Свята незалежнасці...

*Аляксандр ФЯДУТА, першы сакратар ЦК Саюза моладзі Беларусі:*

– Сёння, калі былыя ідэалы парушаны, патрэбны святы, якія аб'ядналі б народ. Адно з іх – гэта Дзень незалежнасці. Да гэтага свята можна адносіцца па-рознаму. Зараз ідзе шмат спрэчак аб тым, што Днём незалежнасці трэба лічыць 25 сакавіка, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Але я лічу, што гэтыя дзве гістарычныя даты пераклікаюцца адна з адной. І тое, што Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі – вельмі важны дакумент, бясспрэчна. Незалежнасць не даруецца зверху, яе трэба дабівацца ў барацьбе. І адчуванне таго, што заваёва незалежнасці – гэта заслуга і цяперашняга пакалення, мне здаецца, павінна надаваць упэўненасці моладзі, якая можа і павінна прыкласці ўсе намаганні, каб замацаваць суверэнітэт роднай Беларусі.

## Міхаіл ПАДГАЙНЫ:

# "Нацыянальная самасвядомасць сёння павінна ісці ад гонару за тыя справы, якія робіць Беларусь"



*Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут, працаваў інжынерам на заводзе вылічальнай тэхнікі, на камсамольскай рабоце. Завяршыў камсамольскую кар'еру на пасадзе сакратара ЦК ЛКСМБ. Пасля гучнага скандалу з былым другім сакратаром ЦК партыі быў залічаны ў разрад "неблаганадзейных". Пасля знакамітага мітынгу ў 1990-м годзе на стадыёне "Дынама", у час якога Міхаіл (адзін з наменклатуры) не пабаяўся пагутарыць адзін на адзін з народам, прычым па-беларуску, аўтарытэт быў адноўлены і яго запрасілі на партыйную работу. Потым — зноў скандал. На гэты раз з вядомай "дэмакратычнай платформай у КПСС". Справа Міхаіла разглядалася нават на бюро ЦК. Апошняе месца работы да прызначэння на новую пасаду — намеснік міністра культуры. Зараз Міхаіл ПАДГАЙНЫ — старшыня толькі што створанага Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў РБ.*

**– Міхаіл, якім чынам Вы апынуліся на гэтай пасадзе?**

— У мінулую пятніцу мяне запрасілі ў адпаведны аддзел Савета Міністраў і паведамілі, што было разгледжана некалькі кандыдатур і спыніліся на маёй. Шчыра кажучы, гэта не выклікала ў мяне асаблівага захаплення, бо я паспеў ужо ўцягнуцца ў працу намесніка міністра культуры і меў пэўныя напрацоўкі і планы, якія не хацелася б разбураць. Але мне задалі пытанне ў лоб: ці патрэбна займацца сёння моладдзю? Папрацаваўшы дванаццаць год з моладдзю, я не мог адмовіцца, спакойна глядзець на тое, што нейкая сістэма такой работы не тое што разбураецца, а ўвогуле не існуе. І новае пакаленне, якое ідзе на змену, не мае ніякіх каштоўнасцей, акрамя як "набіцца бабкамі". Я не захацеў перакрэсліваць усе тыя гады, бо пры пэўных хібах і выдатках праца з моладдзю усё ж вялася, больш таго, камсамол у той час выконваў абавязкі, па сутнасці, дзяржаўнага камітэта. Я ўпершыню адчуў патрэбнасць той сваёй працы, калі быў інструктарам райкама і дапамог атрымаць інтэрнат маладому спецыялісту (для гэтага тады было дастаткова патэлефанаваць на прадпрыемства)...

**– Аднак Вы, напэўна, пагодзіцеся з тым, што Камітэт па справах моладзі не павінен выконваць функцыі толькі "хуткай дапамогі"...**

— Па-першае, мы павінны сёння зрабіць усё, каб моладзь ганарылася сваёй рэспублікай, ідэалогіяй сваёй краіны. А для гэтага дзяржава павінна стварыць умовы, каб моладзь магла сябе рэалізаваць. Першыя, па кім ударыў рынак, — гэта моладзь, якая аказалася нікому не патрэбнай. У 1987 годзе я быў на з'ездзе моладзі ў Аўстрыі. Многія з яго ўдзельнікаў зайздросцілі нам, нягледзячы на невысокі ўзровень нашага жыцця: зайздросцілі нашай упэўненасці ў заўтрашнім дні. І ў той час ніхто з нас нават падумаць не мог, што можа проста апынуцца на вуліцы. І камітэт павінен стварыць усе ўмовы для таго, каб у нашай дзяржаве моладзь усё ж была ўпэўнена ў тым, што знойдзе сваё месца ў жыцці.

Я бачу тры першачарговыя задачы камітэта. Першая — гэта каардынацыя ўсіх дзяржаўных структур, якія так ці інакш займаюцца справамі моладзі: Міністэрства адукацыі, Дзяржкамітэта па фізічнай культуры і спорту, Міністэрства абароны, Міністэрства культуры і Дзяржкампрацы. Другая задача — супрацоўніцтва з усімі грамадскімі рухамі і арганізацыямі, якіх сёння амаль што трыццаць. Трэцяя — гэта міжнародныя сувязі. Амаль усе дзяржавы, якія мы прывыклі называць цывілізаванымі, маюць свае міністэрствы ці іншыя структуры, якія займаюцца маладзёжнымі праблемамі. І мы павінны выкарыстаць іх вопыт.

**– Сёння любая справа ўпіраецца ў пытанні фінансавання. Ці збіраецеся вы ствараць уласную матэрыяльную базу?**

— У беларускім законе аб маладзёжнай палітыцы запісана, што могуць з'ўляцца спецыяльныя маладзёжныя фонды. Я лічу, што павінен быць створаны дзяржаўны маладзёжны фонд і шэраг прадпрыемстваў пры ім, але гэта будзе наступным крокам пасля таго, як мы атрымаем хоць нейкае памяшканне і зацвердзім штаты, якія, дарэчы, будуць складацца з двух аддзелаў у колькасці 18 чалавек (параўнайце са 108 супрацоўнікамі былога апарату ЦК камсамола). Сёння ж пакуль камітэт складаецца з аднаго чалавека...

Акрамя таго, павінна быць створана нейкая асацыяцыя маладзёжных арганізацый: ці гэта будзе камітэт маладзёжных арганізацый, ці аб'яднанне маладых палітыкаў, ці нешта іншае,але гэтая структура павінна будзе аб'ядноўваць на прынцыпах можа канфедэрацыі, можа федэрацыі, можа на нейкіх іншых усе маладзёжныя рухі, каб падтрымліваць тыя іх бакі дзейнасці, якія пойдуць на карысць дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы. З аднаго боку маладзёжныя аб'яднанні павінны будуць самі зарабляць грошы, з другога ж мы будзем падтрымліваць іх: патрэбна будзе нейкая асобная палітыка падаткаабкладання і г.д.

**– Як будуць будавацца вашы адносіны, скажам, з Саюзам моладзі Беларусі?**

— Як з любой іншай грамадскай арганізацыяй.

**– Міхаіл, яшчэ некалькі год таму ў нас назіраўся вялікі ўсплеск нацыянальнай самасвядомасці моладзі. Сёння, на жаль, цікавасць да гэтай праблемы згасае. У чым Вы бачыце прычыну гэтага?**

— У свой час мы нямала паспрачаліся наконт гэтага з Алесем Сушам. Ён сказаў так: "Справа не ў тым, калі мы ставім нашых людзей вышэй за іншых людзей, а ў тым, калі мы ставім нашых падонкаў вышэй за іншых падонкаў". Я ўсё ж думаю, што ніколі нельга ставіць чалавека вышэй за іншага: ці таму што ён нацыянальна свядомы, ці наадварот. Усё ж трэба прызнаць, што сапраўды мононацыянальных рэспублік сёння няма. Нацыянальная самасвядомасць сёння павінна ісці ад гонару за тыя справы, якія робіць Беларусь, нягледзячы на нацыянальнасць. Ну а тое, наколькі ты ведаеш родную гісторыю і мову, — гэта ўжо ўзровень тваёй інтэлігентнасці.

**– Нас вельмі хвалюе яшчэ адно пытанне – стварэнне ўласнай маладзёжнай інфармацыйнай прасторы...**

— Я ўпэўнены ў тым, што Камітэт па справах моладзі павінен ці супрацоўнічаць, ці быць заснавальнікам нейкіх выданняў, якія будуць займацца правядзеннем дзяржаўнай палітыкі ў гэтай галіне, і іх фінансаванне павінна ісці праз наш камітэт.

**– А як Вы ацэньваеце сённяшнюю працу сродкаў масавай інфармацыі?**

— Самае жудаснае, што яны ўбіваюць у галаву маладога пакалення псіхалогію рвача: не думай ні пра якую дзяржаву, не думай пра сваіх дзяцей, не думай пра суседзяў, думай толькі пра сябе, пра сваю асобу. Я ўпэўнены, што калі мы гэта канчаткова ўваб'ём у галовы людзей, то не будзем мець як краіна ніякай перспектывы. Сёння іншыя дзяржавы з жалем глядзяць на тое, як мы разбураем усё добрае, што ў нас было: калектывізм, адказнасць перад суседам, перад краінай. З гэтага, дарэчы, і складаецца паняцце патрыятызму...

**– Міхаіл, на развітанне некалькі слоў у адрас "Чырвонкі" і нашых чытачоў.**

— З "Чырвонкай" у мяне заўсёды былі цёплыя адносіны. Дарэчы, першы мой газетны артыкул надрукаваны менавіта ў вас. Я разумею, што зараз вельмі цяжкі час, што рынак ударыў у першую чаргу па беларускіх выданнях. Але мне хацелася б, каб "Чырвонка" перажыла гэты цяжкі перыяд, таму што такая газета будзе заўсёды патрэбна нашай моладзі. А калектыў газеты, які заўсёды вызначаўся сваёй добразычлівасцю, здаровым унутраным кліматам, няхай застаецца заўсёды цікавым для свайго чытача. Ну а чытачам хачу пажадаць, каб яны не здрадзілі сваёй "Чырвонцы" і мелі кожны тыдзень сваю любімую газету ў паштовай скрынцы. Дарэчы, я сам абавязкова падпішуся на "Чырвоную змену".

Гутарку вёў
Павел Сіманаў.



# Беларускае паганства

**Тэма беларускага паганства і дагэтуль застаецца адной з самых няясных і нераспрацаваных у гісторыі Беларусі. У савецкай гістарычнай школе на гэту найцікавейшую з'яву не звярталі амаль ніякай увагі. Комплекс вераванняў і ўяўленняў беларусаў увогуле разглядаўся толькі ў рэчышчы міфічнай "старажытнарускай народнасці", прычым, знікненне паганства бачылася ўжо ў XI–XII ст.ст. А між тым рассяленне ў VI–VIII ст.ст. трох усходнеславянскіх протанароднасцей (крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў) на балцкіх тэрыторыях і адпаведная з'ява субстрату (калі славяне асімілявалі балтаў, успрыняўшы пэўныя элементы іх культуры і мовы) вызначыла адметныя рысы беларускай этналінгвістычнай агульнасці. Падобныя працэсы адбываліся і на іншых абшарах Усходне-Еўрапейскай раўніны: фіна-угорскі субстрат спарадзіў рускую этнічную адметнасць, іранскі — украінскую. Не маглі не адбіцца з'явы субстратаў і на духоўнай культуры ўсходніх славян. Тая іх частка, якая асімілявала фіна-украў, успрыняла культ мядзведзя і качкі. У Кіеве ў пантэоне Уладзіміра, як сведчанне іранскага ўплыву, сярод чыста славянскіх багоў Перуна, Дажбога, Стрыбога і Макашы, знаходзіліся і іранскія: Хорс (бог руху сонца), Сімаргл (бог аховы парасткаў).**

Найцікавейшая сітуацыя склалася на старажытнабеларускіх землях. Бог Грамавержац (Пярун) і Бог дзікай і свойскай жывёлы, багацця і свету нябожчыкаў Вялес (Валос), якія найбольш ушаноўваліся ўсходнімі славянамі, былі выдатна вядомы, адыгрывалі такую ж ролю і нават мелі амаль аднолькавы назоў у балтаў (Perkunas, Velns). Таму на беларускай тэрыторыі адбываецца кансалідацыя рэлігійных вераванняў балтаў і славян, што не магло не ўзмацніць сістэму паганскіх уяўленняў продкаў беларусаў. Дзве рэлігійныя паганскія сістэмы не варагавалі, не супрацьстаялі, а толькі дапаўнялі адна адну. Так, у вераванні нашых продкаў арганічна ўвайшоў культ вужакі і культ каменя, а балты, у сваю чаргу, зазналі змену ў пахавальным кульце (з прыходам славян мяняецца характар пахавальнага абраду).

Станаўленне дзяржаўнасці, зведанае перш за ўсё з утварэннем моцных Полацкага і Турава-Пінскага княстваў, патрабавала прывядзення паганскага культу ў добраўпарадкаваную рэлігійную сістэму — частку дзяржаўнага апарату. І ў IX—XI ст.ст. узнікаюць і актыўна функцыяніруюць свяцілішчы — своеасаблівыя паганскія храмы пад адкрытым небам. Археалогія, якая ў большасці адкрывала такія свяцілішчы выпадкова, павінна прыкласці значна больш намаганняў для іх пошукаў, але й сёння вядомы цэлы шэраг "паганскіх храмаў" на Беларусі. Гэта Дзявочая гара (у Маладзечанскім і Мсціслаўскім раёнах); Хадасавіцкае свяцілішча (Рагачоўскі раён), Гудавіцкае свяцілішча (Чэрвеньскі раён), свяцілішча вострава Пярунок на воз.Богінскае (Відзянскі раён), дзе самая назва вострава згадвае ўшаноўваемага бога, Крамянецкае свяцілішча (Лагойскі раён), дзе нават сёння да Дажбогава каменя сяляне нясуць хлеб, цукеркі і дробныя грошы; свяцілішча на Валовай азярыне ля Полацка, дзе стаялі выявы Перуна й Бабы Ягі. Усе згаданыя свяцілішчы знаходзяцца пераважна на ўзвышшах паблізу вады. У цэнтры свяшчэнных колаў стаялі выявы багоў, перад якімі гарэў незгасальны ахвярны агонь-зніч, ачышчальны агонь гарэў і ў равіках, якія акружалі свяцілішчы. Падтрыманнем святога вогнішча, а таксама ўсім рэлігійным рытуалам кіравалі жрацы (аб іх існаванні як сацыяльнага інстытута сведчаць рэшткі спецыяльных жыллёвых пабудоў, якія існавалі ў непасрэднай блізкасці ад свяцілішчаў).

Генетычная памяць народа захавала гэтыя рытуалы ў святкаванні Купалля, аднаго з буйнейшых паганскіх свят на Беларусі. Там мы бачым тыя ж атрыбуты: узвышша, вада (рака або возера), ачышчальнае вогнішча. Гэта яшчэ раз пацвярджае тое, што ў тыя далёкія часы (IX—XI ст.ст.) на глебе паганскіх уяўленняў фарміраваўся менталітэт беларусаў, іх духоўная адметнасць, асобныя дэталі якіх можна тлумачыць толькі на ўзроўні падсвядомага.

Хрысціянізацыя, якая была гвалтоўна распачата князем Уладзімірам у 988 г., істотна змяніла становішча на ўсходнеславянскіх землях. Спроба з дапамогай хрысціянства (як раней з дапамогай паганства) падпарадкаваць усходніх славян уладзе Кіева правалілася. Хрысціянізацыя ішла марудна, сустракаючы ўпартае супраціўленне ва ўсіх кутках "шматвяковай імперыі". Летапісы не данеслі звестак аб тым, як сутыкнулася паганства і хрысціянства на Беларусі, але фальклорныя крыніцы пакінулі нам водгалас хрышчэння Беларусі. Ён адлюстраваны ў казаннях аб сутычцы св.Юр'я і цмока:

*Да была зямля няхрышчоная*
*Да былі людзі да няверныя*
*Да былі людзі там няверныя*
*Толькі веравалі лютаму цмоку.*

Пасля перамогі Юры накідвае на рогі цмоку ланцуг і адбываецца "зганьбаванне" паганскай святыні ў вачах вернікаў, накшталт таго, як быў асаромлены Пярун у Кіеве, калі яго, зрынуўшы, цягнулі да Дняпра, "частуючы" бізунамі:

*А тыя людзі пужаліся,*
*Па цёмных куточках пахаваліся.*
*А стойце, людзі, не пужайцеся,*
*Па цёмных куточках не хавайцеся,*
*Паганага цмоку наглядайцеся.*

Аднак намаганні святароў, якія апіраліся на князёўскую дружыну, былі далёка не паспяховымі. Так, даследаваныя свяцілішчы на Беларусі адкрыта функцыяніравалі да к.XI — пач.XII ст.ст. Але разам з тым, увядзенне хрысціянства змяніла палітычную кан'юнктуру на ўсходне-славянскіх землях. Краіна, прыняўшы хрысціянства, аўтаматычна ставілася на прыступку вышэй у вачах суседзяў-хрысціян (трэба згадаць, што ўсходнія славяне прымалі хрысціянства аднымі з апошніх) і атрымлівала не толькі прызнанне, але і ўсе правамоцтвы дзеля барацьбы з "нехрысцямі". Менавіта таму ў адказ на ўзвядзенне ў Кіеве і Ноўгарадзе храма Сафіі "мудрасці Божай", які на той час сведчыў аб самастойнасці, велічы дзяржавы, падобны храм паўстае і ў Полацку, што абвяшчала ўжо на ўзроўні хрысціянскіх краін незалежнасць і моц Полацкага княства. Але сам вобраз Усяслава Полацкага, князя, збудаваўшага храм, які нарадзіўся ад "валхавання" і меў здольнасці ператварацца ў ваўкалака, пад час паходу на Ноўгарад зняўшага званы з тамтэйшай Сафіі, вельмі далёкі ад хрысціянскай благачыннасці. Храм Святой Сафіі быў патрэбны Полацкай дзяржаве як сімвал, і ён паўстаў як сімвал — велічны і прыгожы. Але не змяніў фактычна ні паганскіх звычаяў насельніцтва, ні яго светапогляду. Невыпадкова, што пасля пабудовы Сафіі царкоўнае дойлідства ў Полацку замірае амаль на стагоддзе.

Бязглузда будзе выракацца таго, што прынесла ў нашую культуру хрысціянства. Візантыйскія традыцыі, творча перапрацаваныя на беларускай глебе, далі сусвету Полацкую і Гародзенскую архітэктурныя школы, цуд Лазара Богшы, прыклад вялікай духоўнасці і чысціні — Св.Ефрасінню і Кірылу Тураўскага...

Але спасціжэнне сутнасці хрысціянства адзінкавымі асобамі яшчэ не азначала ўспрыняцця царкоўнай дагматыкі асноўнай масай народа. Улада патрабавала хрышчэння, а спрадвечныя традыцыі, светапогляд і светаразуменне простага люду, яго аграрна-магічнае кола жыцця не маглі дазволіць забыцца на сваіх паганскіх багоў і бажкоў. Так, паступова, пад націскам афіцыйнай улады і царквы, паганскі змест вераванняў быў агорнуты ў фармальную хрысціянскую абалонку.

Так, абрад трупаспалення пакрыху (пачынаючы з к.X ст.) адступае перад трупапалажэннем, але нашыя продкі, не зважаючы на праклёны айцоў царквы, яшчэ да XIII—пач. XIV стст. насыпаюць паганскія курганы. Святары нічога не маглі зрабіць з мысленнем народа, яго менталітэтам, таму на ўзбраенне бярэцца практыка прыстасавання паганскіх святыняў да хрысціянскіх патрэб. Так, на "каменных паганскіх алтарах" Падзвіння высякаюцца крыжы і заклёны, данёсшыя да нас імя полацкага князя Барыса. На месцах паганскіх свяцілішчаў будуюцца хрысціянскія храмы, што павінна было перадаць ім святасць і ступень ушанавання зруйнаваных святыняў.

Такім чынам, паганскія традыцыі на Беларусі пачалі захоўвацца і нават развівацца пад слабенькім "хрысціянскім воцатам". Гэтаму спрыяла і тое, што ўся гісторыя Вялікага Княства Літоўскага праходзіла пад знакам шматканфесійнасці і пэўнай свабоды веравызнання, чаго не было дый не магло быць на Маскоўшчыне, дзе праваслаўная царква, не зазнаўшая канкурэнтаў, пачала сапраўдную вайну з мясцовым паганствам. Гэта вайны была падтрымана дзяржавай і адлюстравана ў шматлікіх "Словах...", "Поучениях.." дый у "Саборным улажэньні" (у ВКЛ не вядома ніводнага загаду супраць паганства).

Цесныя сувязі з этнічнай Літвой, традыцыйна прыхільнай да дахрысціянскіх вераванняў, таксама "падсілкоўвалі" беларускае паганства.

Адбываецца паступовая "дэнацыяналізацыя" вышэйшых і сярэдніх беларускіх саслоўяў, асабліва прыкметная пасля уній 1569 г. і 1596 г., якая абумовіла развіццё беларускага этнасу пераважна ў сялянскім асяродку, які, як і да хрышчэння, жыў паганскімі ўяўленнямі. Прычым, пад час гэтага адасаблення адбываецца сапраўдны выбух паганства. Так, у XVI—XVII стст. (!!!) зноў пачынаюцца насыпацца курганныя насыпы (асабліва на Віцебшчыне), што было звязана з рэанімацыяй пэўных паганскіх рытуалаў. Пашыраецца і культ каменя, прычым творча распрацаваны. Так, калі па ўяўленнях балтаў камяні дапамагалі ў аграрным цыкле, то ў беларусаў дадаецца матыў каменя-лекара, абярога і збавіцеля ад хвароб і няшчасцяў. Культ гэты стаў сапраўднай этнічнай прыкметай беларусаў, што неаднаразова падкрэслівалі этнографы XIX ст. Пакуль што ўдалося налічыць каля 100 абагоўленых, ушаноўваемых камянёў, з якімі звязана бездань найцікавейшых паданняў, казак, легенд.

Некранутасць беларускага паганства як сістэмы светапогляду і светаспасціжэння, які быў адлюстраваны не толькі ў комплексе вераванняў, але і ў аграрным цыкле, святах (варта толькі згадаць Каляды, Грамніцы, Гуканне Вясны, Вялікдзень, Купалле і шмат якія іншыя), штодзённым побыце, сямейным праве і іншых праявах жыцця, давала падставы яшчэ на пачатку XX ст. называць Беларусь "краем казачнікаў і чараўнікоў". І нават просты пералік міфічных істот, якія шанаваліся беларусамі, сведчыць аб тым, што словы гэтыя мелі рэальны сэнс і падкрэслівалі адну з найярчэйшых старонак беларускай этнічнай адметнасці. Так, беларус шчыра верыў у Перуна (бога нябеснага пакаральна-ачышчальнага агню і падацеля нябеснай вільгаці), Ярылу (бога вясенняй урадлівасці і мужчынскага пачатку), Дажбога (бога сонца-падацеля), Юр'я (які ўвасобіў у сабе вобраз Вялеса( Валоса) — бога даброт, апекуна жывёлы і свету набожчыкаў), Ладу (багіню ўрадлівасці, кахання і лета), Цецю (багіню-апякунку ніў і дабрабыту), Богача (бажаство ўраджаю і прац з ім), Стрыгу (злую істоту — крыніцу хвароб — водгалас культу Стрыбога — бога ўраганаў і вятроў), Жыценя і жытнюю бабу (апекуны хлебных палеткаў), Дамавіка (апекуна сям'і і хатняга дабрабыту), Хлеўніка (апекуна свойскай жывёлы), Вадзяніка (уладара воднай стыхіі), Лесуна (гаспадара лясных нетраў), Зюзю (увасабленне зімы і сцюжы), Карачуна (спадара царства нябожчыкаў), Жыжаля (уладальніка падземнага агню, апекуна кавальства), Берагінь альбо русалак (істот, якія жывуць у вадзе і здольныя прывабіць і заказытаць да смерці выпадковага спадарожніка), Плачку (увасабленне памяці і жальбы па нябожчыках); у міфалагічных герояў — Асілкаў ды Волатаў, а таксама ў ваўкалакаў, цмокаў і шмат іншых прадстаўнікоў міфічнага сусвету, у які верыў і ў якім жыў беларус.

Безумоўна, нельга ў невялікім артыкуле асвяціць усе пытанні, якія звязаны з беларускім паганствам. І гэты артыкул, перш за ўсё, мае на мэце абуджэнне цікавасці да непаўторнай, унікальнай з'явы, што пакінула велічны след у фальклоры, эпасе, светабачанні і менталітэце беларусаў і з'явілася адной з крыніц беларускай этнічнай адметнасці, — да беларускага паганства.

Уладзімір ЛОБАЧ.

г.Мінск.

*Міфалогія*

# КУПАЛА І КУПАВА

У разгар лета на землях усходнеславянскіх народаў амаль адначасова ўспыхваюць начныя святочныя кастры. Хвалі вялікіх рэк і маленькіх рачулак расквечваюцца вянкамі. Нашчадкі ўсходніх славян, а з імі і жыхары Прыбалтыкі адзначаюць старажытнае язычніцкае свята. Называюць яны яго па-рознаму. Але прысвечана гэтае свята аднаму і таму ж — урадлівасці, летняму буйству фарбаў, чалавечаму імкненню да радасці і шчасця.

Што ж гэта за свята? Украінцы, беларусы і рускія называюць яго Купалле (Купала). Зразумела, што гэта імя язычніцкага бога. Праўда, бытуе і назва "Ноч на Івана Купалу". Але ў ёй адразу адчуваецца "рука" паборнікаў хрысціянства. Тыя не змаглі вытравіць з народнай памяці язычніцкія звычаі. Не змаглі знішчыць старажытныя святы. Таму "ахрысціянілі" іх. Так і да Купальскага свята прыставілі "патрона" са святцаў.

Але, нягледзячы на аднолькавасць альбо вялікую блізкасць назваў свята, маюць яны ў розных народаў шэраг асаблівасцяў. Так, у рускіх бог Купала, у прыватнасці, дубліруе па сваіх функцыях Ярылу. Таму свята спраўляецца звычайна блізка да Ярылавага дня. А ў некаторых раёнах Расіі наогул аб'ядноўваюць абодва гэтыя святы.

Украінскі Купала адрозніваецца ад рускага тым, што гэта, у першую чаргу, бог шчасця. Таму галоўны абрад украінскага свята — пошукі кветкі шчасця — кветкі папараці. Шырокавядома, што, паводле паданняў, менавіта ў гэтую ноч — самую кароткую ноч года — расцвітае такая расліна.

Беларусы ж раздзяляюць бажаство шчасця на дзве іпастасі — жаночую і мужчынскую. У іх два багі — Купала і Купава (Купалка, Купалінка), муж і жонка. Верагодна, гэта самая шчаслівая нябесная пара. Яны могуць перадаць чалавеку, які спадабаўся ім, іскарку свайго нябеснага шчасця. Але, каб атрымаць яе, чалавек павінен валодаць шэрагам якасцей: мець добрае сэрца, быць адважным і закаханым. Апошняе, калі верыць паданням і легендам, вельмі значны фактар. Усяго адзін раз у год дазволена купальскім багам спускацца на зямлю да людзей. Так наказаў Пярун, рашыўшы, што больш частыя сустрэчы са шчасцем разбэсцяць людзей. Ён жа выбраў і дзень, а дакладней, ноч, у якую Купала і Купава сыходзяць да людзей, самую кароткую за ўвесь год. Гэта выглядае вельмі сімвалічна, бо шчасце, якім бы поўным яно ні было, заўжды здаецца чалавеку кароткачасовым, пралятаючым за адно імгненне. Гэтак жа, як і летняя Купальская ноч.

Роўна ў поўнач з 6 на 7 ліпеня лясная паляна асвятляецца серабрыстым месячным святлом, і багі шчасця на пушыстым воблаку плаўна спускаюцца на яе сярэдзіну. Яны дораць адзін аднаму пацалунак, ад якога зацвітае таямнічая кветка папараці. Яна прызначана як нябесны дар самаму годнаму з жывучых людзей. Яна сваім водарам павінна абудзіць таго, каму прызначана, і паклікаць яго да сябе. Гэтаму чалавеку адкрыюцца вялікія таямніцы зямныя. Ён зможа знаходзіць скарбы, разумець мову звяроў і птушак, разбірацца ў лекавых зёлках. Папараць-кветка дапаможа яму звязаць жыццё з той, якая прызначана яму лёсам.

Але ў купальскіх багоў ёсць люты вораг. Гэта злы Чарнабог. Той робіць усё магчымае, каб кветка не расцвіла ў гэтую ноч, каб чалавек, якому яна прызначана, не пачуў яе кліч. Калі ж кветка ўсё ж каму-небудзь дастанецца, то, на думку Чарнабога, лепш сквапнаму, злоснаму, зайздросліваму і баязліваму чалавеку. Усю гэтую ноч у лесе бясчынствуе нячыстая сіла. Русалкі заманьваюць у багну. Ваўкамі нападаюць і смокчуць кроў. Лесуны заводзяць у такую глухамань, з якой амаль немагчыма выбрацца. Чэрці ловяць тых, "кто с дуру аль со страху в чащу лез", і прапаноўваюць паказаць ім папараць-кветку. Узамен жа патрабуюць душу (своеасаблівая бартэрная здзелка). Але чары Чарнабога і яго служак рассейваюцца, калі кветку шчасця ідуць шукаць двое закаханых. Каханне адпужвае злыя сілы. Таму сярод жыхароў Беларусі бытуе старадаўні звычай: закаханыя ідуць удваіх шукаць папараць-кветку. Акрамя гэтага прыгожага абраду, існуе яшчэ некалькі. Перш за ўсё — ачышчэнне агнём, вадой і зямлёю. Людзі скачуць праз вогнішча, каб выпаліць усё зло, што прыліпла да чалавека за год. Потым яны заходзяць у ваду і змываюць бруд цялесны і духоўны. І ў канцы кладуцца на зямлю і назіраюць з яе, як адна за адной згасаюць на небасхіле зоркі. У гэты час яны, бы Антэй, набіраюцца зямных сіл.

Амаль ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў Купальскую ноч моладзь гадае на вянках. Дзяўчаты і юнакі пускаюць іх па рацэ і ўважліва назіраюць. Калі вянок патоне — чакай бяды. Калі прыстане да берага — жаніх (або нявеста) будзе з гэтых мясцоў. Калі знясе яго хуткая плынь — з далёкіх. Калі ж два вянкі злучацца, то адразу зразумела, што іх уладальнікаў чакае хуткае вяселле.

У календары нашых далёкіх продкаў гэтае свята адзначалася заўжды 7 ліпеня. У наш час яго "падганяюць" да выхадных. У апошнія ж гады моладзь шэрагу рэгіёнаў (узяць, да прыкладу, той жа Мінск) узяла за правіла праводзіць яго нават некалькі выхадных запар.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
Мікола БАГАДЗЯЖ.

# СПОРТ І ПАМЯЦЬ







*Каля пасады леснiковай*
*Цягнуўся гожаю падковай*
*Стары высокі лес цяністы.*

Каму не вядомыя гэтыя радкі з паэмы Я.Коласа "Новая зямля". У іх паэт апісвае мясціны, у якіх прайшло яго дзяцінства.

Гэта Смольня – цяпер тут знаходзіцца філіял літаратурнага музея Якуба Коласа. Менавіта адсюль пачынаўся чатырохсутачны звышмарафонскі прабег "Мой родны кут" спартыўна-патрыятычнага клуба звышмарафону "Беларусь".

Пляменніца славутага песняра Соф'я Восіпаўна Міцкевіч была гідам марафонцаў. Я не першы год ведаю ўдзельнікаў прабегу, але першы раз бачыў, што яны не спяшаюцца стартаваць. І выклікана гэта было менавіта абаяльнасцю Соф'і Восіпаўны, яе мяккасцю, яе цудоўнай беларускай мовай, лёгкім гумарам і аптымізмам. Знаёмства з сядзібай лесніка Міхала заняло ў два разы больш часу, чым планавалася. І дарэмна нагадваў камандзір прабегу Аляксандр Кізіл аб неабходнасці стартаваць. Ад яго проста адмахваліся і адказвалі: "Паспеем. На трасе наверстаем. Калі яшчэ тут зможам пабыць?" Ды Аляксандр і сам адчуваў гэта. Ён проста вымушаны быў напамінаць пра рэгламент.

У рэшце рэшт стартавалі. Прабег "Мой родны кут" пачаўся. Маршрут: Смольня-Альбуць-Стоўбцы-Налібокі-Івянец-Іслач-Вязынка-Мінск.

Дзякуй Богу і Дзяржкамспорту (ён выступіў у якасці спонсара прабегу), прабег забяспечвалі 2 аўтобусы.

Зразумела, што прабег складаўся не толькі з няспыннага бегу. Былі і песні барда Кастуся Герашчанкі, і экскурсія ў Вязынку, і прагулка па запаветных мясцінах старажытнага Заслаўя. Урачысты фініш марафону адбыўся ля помніка Янку Купалу.

Удзельнікаў сустракалі бела-чырвона-белыя сцягі, кветкі і апладысменты. Напрыканцы – доўгае чаепіцце. За сталом гучалі смех, песні, вершы, заклікі змагацца за здаровы спосаб жыцця, за духоўнае і фізічнае адраджэнне беларускага народа.

Ці ж не пра гэта марылі Янка Купала і Якуб Колас?

Мікола БАГАДЗЯЖ.

*Актыўнае ўжыванне ў апошнія гады тэрміна "медыцынскае страхаванне" прывяло да істотных метамарфоз самога сэнсу, які ўкладвае ў гэтае паняцце сярэднестатыстычны жыхар Беларусі. Разам з ядзернай трагедыяй на паўднёвым усходзе рэспублікі, "рэабілітацыяй" асноў заходняга грамадства і адстаўкай Чазава з'явіліся першыя звесткі пра "медстрах", сэнс якога для нас быў тады яшчэ туманны, як, дарэчы, і іншыя неалагізмы таго часу тыпу "спікер", "лібіда", "кансалтынг". Крыху пазней туман пачаў рассейвацца, і старыя, меланхалічна гартаючы перыёдыку ў бясконцай чарзе да ўрача, раптам зразумелі: страхавая медыцына — гэта самае тое. Праўда, яшчэ пазней, калі пенсіі гэтых старых пачало не хапаць на зубныя пратэзы, а ў нетрах грамадства прачнулася настальгія па залатых часах агульнага разгулу партакратыі, сярэднестатыстычны беларус моцна засумняваўся не столькі ў магчымасцях платнай медыцыны, колькі ў сваёй плацежаздольнасці.*

# МедстраХ

## Медыцынскае страхаванне або страх перад медыцынай?

Да сённяшняга дня насельніцтва рэспублікі, якая знаходзіцца ў перадінфарктным стане, у разгубленасці гойсае паміж дзяжурным урачом і знахарам, паміж таўкучкай, якая прапаноўвае но-шпу, жэньшэнь, і дзяржаўнай аптэкай, якая прапаноўвае падысці на наступным тыдні: можа, штосьці ды з'явіцца. З-за рознай вагавой катэгорыі сваіх кашалькоў і рознай ступені паразіўшага розумы маразму людзі выдаюць поўны спектр меркаванняў наконт платнай медыцыны: ад катэгарычнага "не ірвачэбным працэдурам!" да не менш рашучага "вах, навошта мне адзін урач? — Гіві набудзе ўсё Міністэрства аховы здароўя!" Але ёсць пачуццё больш глыбокае, чым заклапочанасць маральнымі прынцыпамі людзей у белых халатах і турботы за свой сямейны бюджэт. Гэта — страх. Страх, што калі-небудзь у гарадах, ахопленых Вялікай Дэпрэсіяй, спыніцца транспарт, у дамах не будзе электрычнасці, у крамах — хлеба, а хворым прыйдзецца ў адзіночку, без дапамогі ўрачоў і лекаў змагацца за жыццё. Ніхто пакуль не застрахаваны ад гэтага кашмару (словы "страх" і "страхаванне", дарэчы, нягледзячы на аднолькавыя карані, усё-такі з'яўляюцца антонімамі)... Калі паспрабаваць паглядзець на праблему незашораным поглядам, то стане відавочна, што бясплатнае гарадское таксі — нашмат меншая раскоша, чым бясплатная медыцына. І пры ўсёй маёй павазе да таксістаў я ўсё ж лічу, што ўжо лепш жабрак-таксіст (і жабрак-журналіст), чым жабрак-урач... Рана ці позна, заплаціўшы таксісту за сэканомлены час, афіцыянту — за калорыі, а вулічнаму музыку — проста так, мы зразумеем неабходнасць заплаціць урачу за сваё здароўе ці жыццё. Узровень нашага "дармавога" здароўя нікога сёння не задавальняе. А можа паспрабаваць штосьці змяніць?

Прэцэдэнт абавязковага медыцынскага страхавання на тэрыторыі былога Савецкага Саюза ўжо створаны. Пра тое, наколькі яно "працуе" ў балтыйскіх дзяржавах, разважаць не бяруся. На Алтаі закон аб абавязковым "медстраху" ўступіў у сілу толькі з першага ліпеня. А якія перспектывы яго ўвядзення ў Беларусі? Пра гэтае я папрасіў расказаць начальніка Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі насельніцтву Беларусі Паўла МІХАЛЕВІЧА.

— Я мяркую, што з медыцынскім страхаваннем на Алтаі павінен атрымацца канфуз. Асноўны ж артыкул затрат на ахову здароўя — гэта заработная плата. Сённяшняя зарплата ўрачоў ніяк не суадносіцца з іх фізічнымі і маральнымі затратамі і, галоўнае, з той ступенню адказнасці, якая вызначае працу медыка. Кошт за паслугі, які ўключае ў сябе такую зарплату, будзе яўна дэфармаваны. Калі паспрабаваць гэтую дэфармацыю паправіць, дык тут ужо ўзровень сацыяльнай абароненасці насельніцтва (як у нас, гэтак, я мяркую, і на Алтаі) не дасць магчымасці апошняму аплаціць працу ўрачоў са сваёй кішэні. Гэта па-першае. Па-другое, прыняўшы закон аб медыцынскім страхаванні, ці змянілі алтайцы сістэму падаткаабкладання? Дагэтуль фінансаванне аховы здароўя вялося ад агульных падаткаў, і калі тут усё засталося па-ранейшаму, дык людзі будуць плаціць за сваё здароўе ў двайным памеры: праз падаткі і медстрах.

**– Якая ж на гэты конт пазіцыя Міністэрства аховы здароўя Беларусі?**

— Задача "нумар адзін" для яго — гэта з мінімальнымі стратамі захаваць дзяржаўную сістэму аховы здароўя, аддаўшы прыярытэт аказанню першаснай медыка-санітарнай дапамогі і ўстановам, занятым высокакваліфікаванай і спецыялізаванай меддапамогай. Задача "нумар два" — не парушаючы дзяржаўнай сістэмы аховы здароўя, стварыць аднолькавыя ўмовы існавання для прыватнай і грамадскай медыцыны. Сёння кожны дзень па радыё можна пачуць рэкламу "Авіцэнны", "Альтэрмеда" і іншых медыцынскіх фірм і асацыяцый, якія пачынаюць выходзіць на рынак. Пакуль што яны пануюць на "бязрыб'і": рэспубліка пасля развалу Саюза апынулася на мелі, без сваёй фармацэўтычнай і медыцынскай прамысловасці. Застацца ж на плаву гэтым фірмам дапаможа толькі самы высокі прафесіяналізм. І я за гэтае абедзвюма рукамі.

Трэцяя наша задача — гэта ўсё ж медыцынскае страхаванне грамадзян. На першым этапе — дабрачыннае ці, калі хочаце, элітнае. Ужо зараз Міністэрства аховы здароўя можа арганізаваць элітную меддапамогу, скажам, для бізнесменаў з ліку вашых падпісчыкаў і прыцягнуць для гэтага лепшых вучоных і дактароў. Але — за грошы. Каб сродкі ад гэтага мы б маглі выкарыстоўваць для аказання меддапамогі сацыяльна не абароненай часткі насельніцтва.

**– Ці можна зараз назваць нейкія тэрміны ўвядзення ў рэспубліцы абавязковага медыцынскага страхавання?**

— Па вялікім рахунку, закон аб абавязковым медыцынскім страхаванні ў нас ужо гатовы, але хутчэй за ўсё ён нікуды не пойдзе... Інакш што будуць рабіць старыя з пенсіяй у 380 рублёў? Гэтай сумы хопіць толькі на адну кардыяграму.

**– Наколькі я зразумеў, прыняцце закона будзе магчыма не раней, чым скончыцца спад вытворчасці і будзе зменена сістэма падаткаабкладання?**

— Так, калі сістэма падаткаў будзе прыведзена ў адпаведнасць з узорамі большасці цывілізаваных краін, тады будзе сэнс гаварыць і пра больш хуткае ўвядзенне абавязковага медыцынскага страхавання.

**– Гэта было б дастатковай умовай?**

— Адной з дастатковых. Акрамя ўсяго іншага, для медстраху неабходныя прававая, эканамічная і псіхалагічная базы. Дзяржаўную ахову здароўя крытыкуюць (і даволі правільна) за тое, што функцыі кантролю ў гэтай галіне выконваюць самі органы аховы здароўя (упраўленні, галоўныя ўрачы), а ў выпадку са страхавой медыцынай кантроль будзе ажыццяўляць страхавая кампанія. Абараніць сябе ў адзіночку пацыент не здолее. Гэта абумоўлівае неабходнасць стварэння грамадскай арганізацыі тыпу асацыяцыі хворых. Чаму вы раптам усміхнуліся? Таварыства ж спажыўцоў у нас ёсць?

**– Спажыўцом чалавек нараджаецца і памірае, а хворы – гэта стан непастаянны.**

— Тыповая псіхалагічная памылка. Справа ў тым, што вы не ведаеце, колькі каштуе ваша здароўе. Я магу скласці прагноз сітуацыі, калі з заўтрашняга, скажам, дня будзе ўведзена абавязковае медыцынскае страхаванне. Адразу скажу: медработнікі будуць атрымліваць вельмі вялікія грошы. Але адкуль возьмеце грошы вы, калі аперацыя па здрабненню камянёў будзе каштаваць як мінімум 30 тысяч рублёў? Міністэрства аховы здароўя калісьці само выступала ініцыятарам размовы пра медыцынскае страхаванне. Грошай на ахову здароўя выдзялялася недастаткова, і гэта была адна са спроб ажыццявіць фінансаванне ўстаноў нашай галіны. Але хутка мы пераканаліся, што ва ўмовах эканамічнага крызісу спробы ажыццявіць гэты праект асуджаны на няўдачу... Возьмем, да прыкладу, прадпрыемства з адной тысячай персаналу. Па цэнах 1991 года медыцынскае абслугоўванне аднаго працуючага складала дзве з паловай тысячы рублёў. Перамножце гэтыя лічбы, дадайце інфляцыйны каэфіцыент "10", і вы атрымаеце суму ў 25 мільёнаў рублёў, якую прадпрыемства павінна будзе заплаціць толькі за медыцынскія паслугі на працягу года.

**Падрыхтаваў А.КІШКІН.**

# БОЙКА З МАНЕКЕНАМІ,

## альбо Пра вушы асобных дэпутатаў, маладзечанскай наменклатуры і газеты "Наш дзень"

А мо і сапраўды, не трэба было пра гэта пісаць? І чаго я папёрся ў тое Маладзечна, дзе ў вёсках пад горадам прадстаўнікі маладзечанскай наменклатуры будуюць сабе вялізныя гмахі-катэджы? І мне прасцей, ды й людзям спакайней. Дабудавалі б гэтыя галоўныя інжынеры будтрэстаў, начальнікі ДРБУ і г.д. наворнай зямлі свае палацы з будматэрыялаў, купленых па льготных цэнах, ціхенька засяліліся і жылі, гора не ведалі. Нам што за бяда?! Пасмаркаўся б ботам дый пайшоў у другі бок.

Вось і А.Клемянок з гэтым згодная. "Магчыма, трэба было абурацца з нагоды відавочнага абкрадвання народа. Толькі які вынік з гэтага абурэння? Каго яно напалохае, каму верне сумленне?", — піша яна ў сваім артыкуле "Бі сваіх, каб чужыя баяліся!" ("Наш дзень" № 56 г.г.). Добрыя словы, шчырыя і талерантныя. Ну абакралі нас, ну без праблем атрымалі тое, да чаго іншыя, "не дапушчаныя да стала", імкнуцца доўгія гады, ну і што?

Але калі вы лічыце, што аўтару артыкула ў маладзечанскай газеце гарадскога Савета народных дэпутатаў "Наш дзень" бракуе нагод для абурэння, то глыбока памыляецеся. Палічыўшы, што абурацца на тых, хто абкрадвае народ, справа бесперспектыўная, А.Клемянок гнеўна паказвае ў бок аўтара артыкула ў "ЧЗ" "Цені ў горадзе сонца" (№ 26) і ўказвае на яго памылкі.

Сапраўды, памылкі грубыя і для прафесіянальнага журналіста недаравальныя. Пакінуўшы без праверкі інфармацыю, выкарыстаную ў артыкуле, я памылкова, пералічваючы тых асоб, што будуюць сабе катэджы, "рабіў" галоўнага інжынера будтрэста № 23 Стасіловіча дырэктарам трэста, а дырэктара мэблевай фабрыкі Бушылу — старшынёй аграпрома. Памылка? Безумоўна. І я прыношу свае прабачэнні.

Толькі скажыце, калі ласка, ці сталі ад гэтага катэджы названых людзей менш шыкоўнымі? А мо Стасіловіч вярнуў дзяржаве розніцу паміж ільготнай цаной будматэрыялаў (па якой ён іх набываў) і звычайнай, па якой прадаюць іх усім астатнім людзям? Ёсць у матэрыяле "Цені ў горадзе сонца" і яшчэ адна памылка: пад фотаздымкам з аб'ектам будоўлі стаіць подпіс, які сцвярджае, што гэта катэдж дырэктара трэста сталовых і рэстаранаў Лусто. На самай жа справе гэты гмах належыць начальніку ДРБУ-195 Кострыкаву. Але хачу ўпэўніць: у спадара Лусто не горшы "домік". І наступным разам мы дадзім яго фотаздымак.

Не ведае спадыня А.Клемянок і як разумець фразу: "вышэйшае кіраўніцтва Маладзечна атрымала зямлю". Паспрабую растлумачыць. Пераважная большасць "забудоўшчыкаў" займае высокія кіруючыя пасады ў Маладзечне... Вось і ўсё. І ні пры чым тут мэр горада Карпенка і ягоныя намеснікі.

У рэшце рэшт аўтарка матэрыялаў "Бі сваіх..." выносіць да роздуму чытача, далібог, складанае пытанне. "Не ведаю, як каму, а мне добра бачна, чые вушы тырчаць з-за радкоў публікацыі ў "ЧЗ". Ці не той гэта, хто, спадзеючыся на "сяброўскія адносіны" з Карпенкам, так і не атрымаў без чаргі дзяржаўную кватэру, хто не палепшыў жыллёвых умоў, "законным метадам" выкупіўшы за дзяржаўныя сродкі асабістую кватэру? Ці не той, хто ўрваўшы ад агульнага пірага, мацней за іншых крычыць: "Трымай злодзея!".

Ну што ж. Не буду хавацца. Скажу па шчырасці, чые гэта вушы: народнага дэпутата гарсавета Л.Цімохіна, народнага дэпутата аблсавета А.Хвосціка і іншых членаў Дэмакратычнага клуба дэпутатаў гарсавета. Відаць, гэта яны, спадзеючыся на "сяброўскія адносіны" з Карпенкам, так і не атрымалі без чаргі кватэры, не палепшылі жыллёвых умоў, не ўрвалі ад агульнага пірага.

Не ведаю, ці пакрыўдзіцца на мяне галоўны інжынер Стасіловіч за тое, што я "зрабіў" яго дырэктарам, але ці задаволены будуць народныя дэпутаты такімі выпадамі ў іх бок?

Безумоўна, памылак у матэрыялах выданняў любога ўзроўню дапускаць нельга. І звяртаць увагу на іх неабходна. Толькі ці не спрабуюць такім чынам у Маладзечне "выпусціць пару", перацягнуць увагу з "відавочнага абкрадання народа" на драбязу?

**З павагай**
**Зміцер ЛУКАШУК,**
**аглядальнік "ЧЗ"**
**па пытаннях эканомікі.**


Катэдж начальніка ДРБУ-195 Кострыкава.

## НАША АНКЕТА

1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?

2. Што замінае табе быць самім сабой? Твае адносіны да шматлікіх сённяшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастарамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі.

3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?



### Анжэліна ДАБРАВОЛЬСКАЯ:

1. Жыву імгненнем.

*Гадзіннік*
*разбівае хвалю часу*
*на вясёлкавыя імгненні.*

Збіраю аскепкі, складаю з іх мазаіку — Сусвет.

Я — творца, сцвярджаю сябе праз стварэнне; пры гэтым вопыт, талент — другасныя, не ўплываюць на самарэалізацыю, а толькі на якасць твора.

2. Нішто мне не замінае.

Партыя — па-лацінску "частка; аддзяляю, раз'ядноўваю". Мне бліжэй рэлігія — "звязваю, злучаю". Увогуле ж, згодная з надпісам на Разецкім камені: "Каждый выбирает по себе Женщину, религию, дорогу, дьяволу служить или пророку. Каждый выбирает по себе..."

3. Адбыцца, здзейсніць сваё прызначэнне.

"Крыніцы" — "наша галактыка", абжыты намі куток паэтычнага космасу, дзе ў кожнага — свой свет, свая маленькая планета (успомнім Экзюпеfinally), дзе ён садзіць ружы, лічыць зоры, пераводзіць стрэлкі, запальвае ліхтар ды прымае гасцей з іншых светаў...

Мне "Крыніцы" далі "чалавека, які мяне прыручыў".

Даглядаю сваю планету, узгадоўваю сад.

### Юрась ПАЦЮПА:

1. Жыву хлебам, як і наканавана паводле Бібліі, любоўю да кожнае праявы тутэйшага існавання. Каб сцвердзіцца, талент не патрэбен, ён (калі ёсць) не мая кампетэнцыя, а ў маіх сілах адно — прафесіяналізм. "Не думай, што пра цябе скажуць пры жыцці, а думай, што скажуць пасля смерці" (Канфуцый). Таму не вядомасць, а праца вызначыць нашу меру. А на брак жыццёвага вопыту не скарджуся, але да творчасці ён не мае ніякіх адносін; згодзен з Я.Сіпаковым, што жыццёвы вопыт патрэбен графаману.

2. Дзіўная ў гэтым пытанні логіка. Па-першае, яно прадугледжвае, быццам нешта замінае быць самім сабой, што абсалютна абразліва для мяне, адказ, адпаведна, зразумелы. Па-другое, пры чым тут партыі? Найменш імі цікаўлюся, бо з газет чытаю толькі літстаронку "Чырвонкі", "Гуманитарный фонд" і час ад часу што-небудзь падобнае. Адзіная цікавая партыя была КПСС, бо як сінкрэтычная з'ява ўключала ў сябе і эстэтычны момант.

3. Я — рацыяналіст і маю толькі планы. Мару, праўда, што свет будзе разнастаіцца, але вакол бачу адваротнае, змяшэнне і спрашчэнне. Працую над дыпломнаю пра Максіма Багдановіча, над кнігамі і над сваімі думкамі. "Крыніцы" далі мне жонку, сяброў, а творчыя прынцыпы, на жаль, я выпрацоўваю самастойна.



## Аляксей МАРАЧКІН

* * *

Ёсць вопыт у некага —
гладка кладзецца масніца
на коўзкіх буграх раздарожжа.
Ёсць крылы у некага...
Праносяцца дні ў віхурах, завеях.

* * *

У перспектыву імкнецца
  крывая лінія майго шляху.
Здаля яна многім здаецца залішне прамой,
  крывая лінія майго шляху.
Дзе пачатак яе, а дзе заканчэнне?..
Гарызонт майго існавання хавае яе
  У прыцемках невядомага мне Часу.

* * *

Я не хачу грызні і каламуці дзён.
Я бесканфліктны...
  Сам сабе не гідкі.
Мне да душы сямейны мой палон,
і не паддамся я
  чужой агітцы.
Я бесканфліктны... У мяне сям'я,
а нада мной — начальнік,
  яго "замы".
І для мяне яны не тое, што сцяна —
  я перад імі, як прад абразамі.
Я бесканфліктны... Я такі. Ды вось жа
чамусьці сэрца раптам
  затрымцела.
І адчуваю я... Мо гэта падалося?
Пайшоў разлад паміж душой
  і целам.
Бывае, сам сябе не пазнаю.
Як насланнё —
  душэўныя пакуты.
Пытаюся ў сябе... Адкуль? Куды іду?
І адчуваю —
  прырастаюць путы.
Я бесканфліктны... Толькі зноў і зноў,
бы нейкі калатун,
  мяне калоціць.
І ўжо пазбавіўся салодкіх сноў:
жыццё віруе,
  як цапом малоціць.

1989 г.

## Гасцёўня



* * *

Народ мой, край самотнай далі.
За што ж такі мы лёс прыдбалі?
За што цярпець
  такія болі,
чаму пакут за ўсіх
  нам болей?
Хто адгукнецца, хто пачуе,
што ў нашай хаце
  цмок начуе?
Душу калечыць, наша цела,
руйнуе ўсё,
  што ацалела.
А мы ляцім
  праз годы й леты.
Мяняем шыльды і партрэты.

1987 г.

## Калодзеж у жыце.

Я полем,
  я полем...
    я полем іду.
Мне дальняй дарогі вы
  не варажыце.
На бітым шляху
  запаволю хаду
і ўбачу калодзеж,
  калодзеж у жыце.
Я проста,
  паволі...
Я сцежкай іду.
Забыты мой край.
  След знайсці памажыце.
Не ведаю сам.
  Нібы ў сне
    я брыду
і бачу калодзеж...
  Калодзеж у жыце.
Я помню
  і знаю...
    Я недзе адсюль,
мінуўшчыны знак
  мне з былога звяжыце.
Як доўга,
  як доўга
    ў дзяцінства іду.
І бачу калодзеж,
  калодзеж у жыце.
Я ж тут побач з вамі,
  ды ўжо не пазнаць
таго, што было.
  Дзён вузлы развяжыце.
І мроіцца мне...
  Тут рукою падаць —
калодзеж,
  калодзеж...
    Калодзеж у жыце.
Мой ганак...
  Мой ранак.
    Бацькоўскі дзе дом?
Што сталася з ім?..
  Прашу вас, скажыце.
Хто роднае,
  крэўнае
    кінуў на злом?..
Застаўся калодзеж,
  калодзеж у жыце.
І што...
  Дзе маё тут?
    Азябла гняздо...
Хто мне адгукнецца?
  Знямелі, маўчыце?
Маіх дзён няроўных
  ірвецца звяно.
Калодзеж,
  калодзеж,
    калодзеж у жыце.
А вецер...
  А вецер
    мне сушыць слязу.
Сатканы абрус
  на зямлю палажыце.
Я — камень маўчання...
  Іду праз мяжу.
Знікае, знікае
  калодзеж у жыце.

1987 г.

## Лазня

Лазня, парог, качарга,
дым засціць вочы.
Жар у душы,
жар у начы
стан працінае дзявочы.
Лазня, вада, чысціня...
Вохкае камень на печы.
Вару на дно,
бела лайно,
венік гарачы на плечы.
Лазня, настоены дух,
пекла сыходзіцца з раем.
Пара ўгары,
снег на двары
пахнуць бярозавым гаем.





## Мікола СЯНКЕВІЧ

# ПАРТРЭТ

*(Быль)*

Віталь Барысавіч, малады настаўнік — стажор, з самага ранку абышоў усе кнігарні абласнога цэнтра. Месяцы тры назад ён атрымаў дыплом і, як шчыры прыхільнік роднага слова, быў перапоўнены жаданнем дзейнічаць. (Школа была рускамоўная. А чым, скажыце, адрозніваецца, для прыкладу, 44-ая школа абласнога цэнтра ад 44-ай школы Санкт-Пецярбурга ці Екацярынбурга?!).

Віталь Барысавіч шукаў партрэт. Партрэт Паэта.

Са сцен кнігарняў пазіралі сытыя зеленавокія каты: пушыстыя кацяняты выглядвалі з кошыкаў, гулялі з клубкамі нітак, валтузіліся на мяккіх дыванах, ці, паважныя, з акуратна падвязанымі аксамітнымі гальштукамі-матылькамі, сядзелі смірна і нават па-кашачы велічна. Зверху, другім ярусам, мускулістыя кінагерої з жалезным поглядам сцвярджалі верхавенства фізічнай сілы і прамалінейнасці...

Партрэта не было.

Ён адшукаўся ў школе, амаль па суседству.

Уся справа не заняла многа часу. Праз якія паўгадзіны на месцы прывычнага ва ўсіх установах партрэта правадыра вісеў партрэт Паэта.

У добрым настроі, з пачуццём нейкай неўсвядомленай радасці, вяртаўся малады настаўнік дахаты. Што чакае яго заўтра: падтрымка, шчырая размова ў дырэктарскай або глухое неразуменне? Ён шукаў словы, якімі дакажа правамернасць свайго ўчынку, і такія словы лёгка прыходзілі. "Будуць заходзіць бацькі, сябры, цікаўныя першакласнікі яшчэ з калідора заўважаць змены,— цешыў сябе думкай.— Ён павядзе сур'ёзную размову пра роднае слова".

Раніцою ўсхваляваны настаўнік ледзь дачакаўся канца папярэдняга ўрока. Да дзвярэй, штурхаючы адзін другога, спяшаліся вучні.

Усё было як звычайна.

Віталь Барысавіч уважліва, бы ў першы раз, стаў разглядваць партрэт.

— Хочаш вер, хочаш не, а мае не ўгледзелі да самага апошняга ўрока...— перахапіў позірк старэйшы калега.— Аж пакуль сам не звярнуў увагі... Прызвычаіліся мы не заўважаць партрэтаў. А дзеці... Добра, што яны яшчэ нас заўважаюць, вітаюцца...

Віталю Барысавічу зрабілася сумна. І толькі Іван Дамінікавіч з прыемнай усмешкай у вачах нібы супакойваў: "Трымайся, чалавеча, не панікуй..."

Усё ж здалося маладому настаўніку, што яго вучні пасля званка сталі збірацца ў клас куды ахвотней.



## Вольга АКУЛІЧ

***

Даруй ёй здраду, ёй трэба толькі
кавалак волі у халодных пальцах,
гульня з агнём — пагулянка з воляй
у сумных думках, нязваным госцем.

Прызнанні шэптам, малітвы крыкам,
сымбалі веры ў плакатных фарбах.
Даруй ёй здраду, такую ж мару,
тваіх кашмараў ажыццяўленне.

Яна не прыйдзе, шляхі забудзе,
спытай яе, а якога чорта
на ейнай вуліцы сёння свята,
калі шляхі нераскрылі войскі.

І залатыя адбіткі вёсен
на залатых заручальных кольцах.
Спрабуй быць добрым, ці проста
нязлым. Даруй. А боль — гэта пройдзе.

***

Крынічныя воды — анёлавы слёзы,
празрыстыя воды — як кропелькі зорак.
Тут месяц гуляў і згубіў свой сцізорык,
ды як гэта нашых датычыцца лёсаў?

А месяц сумуе, сцізорык шукае:
каго сустракае — таго забівае;
каго не сустрэне — таго забывае...
А нас не кранае. Нішто не кранае.

***

Мой каханы не прыйдзе ні сёння,
ні заўтра.
Мой каханы змяніў сто жонак.
Пераможца, захопнік азартны —
ён адзіную не перамог.
І сышоў.

***

З такой жа рэзкасцю ў рухах
зірнула ў люстэрка... Дык ты
сварлівай будзеш свякрухай,
пляткаркаю — хоць куды.

Прымерай лянок-сукенку —
старэчы някідкі строй.
Ты будзеш жахлівай старой,
як пекнай была паненкай.

### ЧАКАЙ

Як я — амаль святая,
так ты — амаль кахаеш.
Я ніткай залатою ўзоры вышываю.
Я ніткай ільняною нядолю залатаю
і ў госці завітаю
да цябе.
Збіраюся я месяц, збіраюся другі,
сябрам плачу даўгі,
зласліўцам — пазычаю.
Чакай, на самы хуткі цягнік
куплю квіток
і ў госці завітаю
да цябе.

***

А жыццё — як забыццё...
На світанні — пацалунак,
пры расстанні — пацалунак,
бо жыццё — як забыццё.

А жыццё — як смертны час...
Клічаш — я ў адказ ні слова,
быццам заняло мне мову,
клічаш — я маўчу ў адказ.

А жыццё — як летні дождж...
Нечакана, непрыемна,
і каханне — не ўзаемна,
і бяжыць сляза, як дождж.

***

Свет ведае пра сто маіх каханняў,
не ведае пра сто маіх каханкаў.
Свет каравуліць пад акном да ранку,
чакае, хто там выскача з акна.
А ў кожнай з нас пакутніца-святая
змагаецца са стомленай блудніцай.
Старых не забываючы традыцый,
змагаецца з абедзвюма ўвесь свет.
Свет зазірае ў шчыліны і дзіркі,
бы незнарок, падслухвае за сценкай.
Спадарыня, уласніца, паненка —
такі вялікі свет, ды ты адна.

***

Крыўдавала на Бога,
што шчасця не даў —
даў праз меру.
Не ведаю, як цяпер быць,
ды й пытаю:
— Скажы, о магутны мой Бог,
што рабіць?
Які з двух далёкіх шляхоў мне абраць?
Каго з двух прыгожых хлапцоў пакахаць?

***

Палявала на дзікага звера вядзьмарка:
кулі срэбныя ліла, меч булатны кавала,
ды атруту варыла, над вадой гаварыла:
— Засцялі сонца, хмара!
Знайдзі, стрэл, ахвяру!
Як маладзік на неба —
стань атрутай, глеба!
Як новы дзень засвеціць —
не знойдзе месца ў свеце
звер... Дзікі звер.



## Зміцер ЦЕХАНОВІЧ

### АБЛОКІ

І ўсё плывуць бахматыя аблокі,
імкнуць да таямніц далечыні.
Пастух іх — вецер, хлопец светлавокі.
Яны ў яго абладзе дзень пры дні.
Бо гэта ён распраствае ім крылы,
дарэ ім палёту вольны дух,
а часам дазваляе ля абрыву
зірнуць у азяровую ваду
і плыць далей, ужо ў суладдзі з плынню,
так бестурботна лёгка, з вышыні
ўглядаючыся ў цёмныя глыбіні,
шукаючы нябёснай чысціні.

***

Птушыным спевам уздымуся ў неба,
сустрэнуся з зямлёю кропляй дажджавой
і прарасту з зямлі рамонкам зрэбным,
успоеным тваёю горкаю слязой.
А ты сарвеш рамонак золкім раннем.
Сагрэеш вуснамі пялёстачкі яго.
Пачнеш гадаць на нашае каханне...
І ўбачыш, што кахання не было.

***

*Яну Баршчэўскаму, аўтару "Шляхціца Завальні".*

Ну, а вакол шалее завіруха,
зямлю і неба зблытаўшы ў віхры.
Аголеныя дрэвы стогнуць глуха,
галосяць разам з ветрам у бары.



А побач — возера. Узвітай беллю
па роўнядзі таўшчэзнага ільду
імчыць са свістам "чортава вяселле",
у сэрцы заганяючы нуду.
Ірвуцца ў небе хмары снегавыя
і сыплюць яскамі, халоднымі, як ноч.
Рагоча бура. Ваўкалакам вые:
— Гэй, пагуляць са мною хто ахвоч?
Хто расхаробіцца спазнаць маё каханне
ў абдоймах нарастаючай жуды?
Таго я раніцой пяшчотна, дбайна
спаць пакладу ў сумёце назаўжды.

### НА КАМАРОЎЦЫ

А на Камароўцы
гандлююць лоўка
кашулямі, нагавіцамі,
пантоплямі ды спадніцамі,
разынкамі, кавунамі,
салёнымі агуркамі,
грыбочкамі сушанымі,
яблыкамі, ігрушамі,
персікамі, цытрынай
і іншаю садавінай,
шынкамі, ядлаўцоўкай...
На тое яна й Камароўка.
А што не назваў — прабачце:
схадзіце і самі пабачце.

### ТАБЕ

Упалі агонь у маім сэрцы.
Толькі ён душу сагрэе мне.
І, павер, нас шчасце не міне.
Упалі агонь у маім сэрцы.

### СВЯТЫЯ ЗОРКІ

Святыя зоркі,
колькі вуснаў
маленні неслі вам свае!..
А колькі вуснаў у бяздушшы
вас вінавацілі... Але
вы толькі моўчкі пазіралі
на гора й радасці людзей,
ды з часам бляклі, патухалі
ў зрэнках выстылых вачэй.



---



Анатоль КРЭЙДЗІЧ

# МОЖАЧАЛАВЕК

## Апавяданне

— Э,э! Чаго штурхаешся.

— Вой, гэта ж я незнарок.

— А мне пляваць, знарок ты ці не знарок. Зараз вунь як... Стой-стой, недзе я цябе бачыў. Бачыў жа, так?

— Чаму не, мо і бачыў.

— Здароў.

— Дзень добры, але я...

— Не пазнаеш?

— Нібыта і бачыў, а ўспомніць не магу.

— Пабажыся.

— Нешта знаёмае. А вось спамятацца... Ну, хоць ты лясні.

— Гм. Не можа быць, каб сеў ды ўпаў, ці п'яны быў, ці нехта пхнуў.

— Гы-гы. А ты жартаўнік. Мо пойдзем за столік сядзем. Ці ты так зайшоў?

— А хто ж так у рэстаран ходзіць? Пояць тут за грошы. Дык ты напраўду не пазнаў мяне?

— Не.

— Гм. Пабажыся.

— Крыжымы святы...

— Крэ-жэ-мы-свя-ты-ы. Пабажыцца нават па-людску не можаш.

— Дык... Я ж...

— Няма тут Яш. Тут ёсць я з табою, ды вунь бялявая афіцыянтачка... Нам, маладзічко, па стопіндзесёнц і-і-і... Што ў вас тут загрызнуць ё?

— Много чего есть.

— ...І па вінегрэту. Ды глядзі ж, каб, ядры твою, адна нага тут, другая там! Гы-гы. О паперла. Гэтак з імі трэба: не давай кабыле стаць, шавялі-паехалі. Дык на чым гэта я спыніўся?

— Што Яш тут няма, а ёсць ты, я, афіцыянтка...

— Ага, і о той дзядок, што каля дзвярэй сядзіць. А ты, калі не ведаеш яго, дык, значыць, ні разу ў рэстаране не быў.

— Чаму не быў. Дзе-калі заходзіў.

— Дзе-калі, дзе-калі. Налівай. Ты хоць цяпер пазнаў мяне?

— Але ж.

— От, зануда. Не, каб гэта пэўна сказаў: пазнаў. Ну, ды ладна, бяры. Але ж і рука ў цябе бабская нейкая, як у нашай бухгалтаркі. А вось сапраўдная рука. Рычаг. Як трэсну каму, дык пяты куток злічыць.

— Тваё здароўе...

— Нікуды яно ад мяне не ўгарыць. Трэба так сказаць: сыдзі, нячыстая сіла, застанься чысты спірт.

— Калі якая нячыстая падліла сюды вадзічкі, то ўжо нікуды яна не сыдзе.

— Сыдзе. У нашыя вантробы. Пі хутчэй, а то закіпіць. Дык ты і напраўду не ведаеш гэтага дзядка? Ну даеш. Я і падумаць не мог, што яго нехта ў нашым гарадку не ведае. Аж, бач ты, знайшоўся індывідум. Ды ты не крыўдуй. Лепш паслухай. Гэты дзед, калі садзіцца за які столік, то людзей з суседніх месцаў як ветрам здзімае. Смярдзючы такі. Сам зірні, вунь як барада ў каўтуны збілася...

— Не магу, вырве...

— О. Ты такі ж чысталюй, як і іншыя. А я з ім за адным столікам сядзеў. І нічога, вытрываў. А ведаеш, чаму ён сюды прыходзіць?

— Каб паесці, мусіць.

— Зануда. Калі не ведаеш, то ўжо хоць маўчаў бы. Ён прыходзіць, каб пазыркаць на хвайных дзяўчат. Прыязджае аўтобусам ажно з Вулькі, з-за канавы. Даўно ўжо ездзіць, з таго часу, як жонка памерла. Раней не піў у рэстаране, а цяпер, калі хто нальне, не адмаўляецца.

— А дзяцей у яго няма?

— Няма.

— Слухай, а скуль ты ведаеш, што ён прыязджае на дзяўчат пазыркаць?

— Сам казаў. О-о, гэта дзядуля шчэ той. А ты ведаеш, як ты мне ўпёкся быў тады ў чарзе па гарэлку. Каб не ты, я даўно ўзяў бы. А то раскрычаўся: куды лезеш без чаргі! Я з-за цябе дзве лішнія гадзіны стаяў.

— А-а, цяперака я ўспомніў цябе. То калі ж тое было.

— Калі б не было. Але я не крыўдую, бо ведаю, што я ўсё ж лепшы за цябе.

— Чаму гэта лепшы?

— От, глядзі, зараз падыду да дзядка і аддам яму ўсе свае грошы. Думаеш, мала іх у мяне. Дваццацьпятка, яшчэ адна, сотка, пяцёркі... Глядзі ж.

— ...

— Ну што, бачыў? А ты ніколі не зробіш тое, што я зрабіў.

— І я магу даць. Во, чырвонцы, пяцьдзесятка... Не менш, чым у цябе.

— Маладзе-ец, не пашкадаваў. А толькі ты нічога гэтым не даказаў.

— Як гэта?

— А вось як. Я ж аддаваў свядома, а ты, як бы гэта сказаць, нібыта пад гіпнозам. Каб не я, ты зроду не дадумаўся б да такой дурніцы. Успомніш маё слова, ты яшчэ доўга будзеш шкадаваць, што вырабіў такое. Хіба ж не так?

— Можа так, а мо і не так.

— А, што з табою гаварыць. Нейкі ты і не чалавек зусім, а... можачалавек.

— Гы-гы, жартаўнік.



## Алесь Паплаўскі

* * *

Неба выткана старанна
з чырвані заўчаснай.
Дрэмле ціхі росны ранак
на грудзях у Спаса.

Рана жнівень апусцелы
адзвінеў калоссем.
Надкусіла яблык спелы
за парканам восень.

* * *

Пасівелая вечнасць.
Рвуць вятры далячынь.
Задыхаецца вечар
у маўклівым плачы.

Стужка чорнага сітца
мокрых дрэў і дамоў.
Страх памрэ, каб радзіцца
ранкам заўтрашнім зноў.

Будзе ўсё, як і ўчора:
сон мой боль украдзе,
мне прымроіцца горад —
горад мар і надзей.

І пад цішай убрання
новых зманлівых шыльд —
пустата спадзявання
для пакутнай душы.

* * *

Гэты свет, як чужы пакой,
звар'яцелы, нязвыклы час.
Безнадзейнасць і злы дакор
дагрызаюць пакрыху нас.

Неадступнай снуе сцяной
беспрытульная постаць дня.
І жыву я даўным даўно,
а жыццё не жыццё — гульня.

За спіною хавае твар
мітуслівы, нямы натоўп.
Княства прывідных, дзіўных мар,
дзе не чуе мяне ніхто.

* * *

Заснежыла зноў, замяло...
Маўклівасцю ноч разліта.
Шукае на шкле далонь
мінулага дня адбітак.
І не вінаваты лёс,
што дзесьці за той пагардай
на востраве тваіх слёз
мая пахавана радасць.

* * *

*Ларысе ГЕНЮШ*

### ЧАКАЮ І Я...

Час раскрышыць той камень
з пакут чалавечых і гора без меры.
Чакалі дзяды нашы доўга, вякамі
і ў спадчыну мне аддалі сваю веру.
Мой скованы край пахавае дрымоту,
святыя ў капліцы адправяць малебен.
І ноч адыдзе, з-за калючага дроту
знясілена вызірне сонца на небе.
І дзень ажыве ўпершыню, усміхнецца
шчаслівa і вольна пасля доўгай ночы.
Па грэшнай Зямлі дабрынёй разальецца
і высахнуць слёзы на тварах жаночых.

* * *

Ціха старыцца час.
Хутка старымся самі.
І наноў не пачаць —
трыццаць тры за плячамі.
І адведзены век
напалову пражыты.
А скупы прадавец
шчасце з мараю зблытаў.
Гэты свет на вачах
нема гіне ад стомы.
Мой затоены страх
непатрэбны нікому.
Вечар мкне цішынёй
неба рванае склеіць.
Ды нікога за мной
у чарзе да надзеі.
Мо прыдуманы свет?
Не расчынены дзверы...
Недапісаны верш —
боль няспраўджанай веры.



## Мікола Мельнікаў

### ХЛЕБ І ПЕСНЯ

*"Будзе хлеб — і песні будуць".*
*· Народная прымаўка*

Бывала — хлеба не было,
А песень пелася даволі.
Пяе галоднае сяло
І сее хлеб-надзею ў полі.

Згубіў нямала на вяку —
мужык з народзін наравісты...
І сёння ён нясе на кут
Не першы сноп, а тэлевізар.

Пашану аддае сяло
Бяздумнай сытасці, як долі.
Хлеб на стале і — пад сталом —
Не красіць песня больш застолле.

### ГАЛАСЫ ВЁСКІ

Пачую ўсюды, як мая
Гукае вёска шматгалоса —
І з гаю песняй салаўя,
І плачам кані над пакосам.

Блукаць там будзе па расе
Юнацтва нетаропкі вечар,
Калі, бы птушка на страсе,
Маё дзяцінства адшчабеча.

А пагалоскай, як лясун,
Па вёсцы гойсае быліна.
Яе скрозь годы панясу,
Бо родам з гэтае зямлі я.

За радасць колішніх забаў
Я вёсцы зноў гатоў аддзячыць...
А ў сэрцы горыч і туга:
Не чутна галасоў дзіцячых.

### ПОЗІРК

Усё радзей з табой сустрэчы,
Часцей жа — думкі пра цябе.
Ты зябка ўскідваеш на плечы
Хусцінку жоўтую цяпер.

Тады ж была ў зялёнай світце.
Што з жаўрукамі на плячах,
І, стоячы па грудзі ў жыце,
Глядзела з-пад рукі на шлях.

Твой позірк асвятляў дарогі,
Якімі ў клопатах ішоў.
Але да роднага парога
Мне не знайсці было шляхоў.

Ты пастарэла ад чакання.
З тугою страты, нібы ў снах,
Стаіш адна ля скрыжавання
І з-пад рукі глядзіш на шлях.

### АДДАНАСЦЬ РОДНАМУ КРАЮ

Чужой любві і знаць не трэба,
Каб разумець матулі ласку,
Бо мы сышлі сюды не з неба,
А распазнаць "зямную казку".

Што нам завоблачныя плёсы
І іх нязведаныя далі.
Калі сцяжынку ў лузе росным
З матуляй роднай адкрывалі.

Хай з часам сталая гадзіна
Павабіць нас бяздоннем неба,
Ды, каб любіць сваю радзіму,
Чужую ласку знаць не трэба.

### КРЫНІЦА

Каб не стаць балацінкай, крыніца
Нарадзіла раўчук-срэбразвон;
Па абшарах пяшчотай бруіцца
І сцюдзёнай гаючасцю ён.

Не змялела крыніца праз гэта —
Нават стала глыбей і чысцей.
Наталяе спякотнае лета
Смагу сэрца спагадай яе.

Сябар мой, хай табе і прысніцца.
Толькі б гэтыя словы ты чуў —
Каб душа засталася крыніцай,
Хай з яе выцякае раўчук.

*Інтэрв'ю*

# "Да славы імкнуцца не трэба"



**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар штотыднёвіка "Наша слова". Але галоўная яго прафесія — паэт. Яго вершы друкуюцца ў газетах і часопісах, выходзяць асобнымі зборнікамі, гучаць у якасці песень. Ужо неаднойчы чытачы штотыднёвіка "Чырвоная змена" прасілі расказаць пра паэта больш падрабязна, іх цікавяць не толькі творчыя поспехі, бадай, аднаго з самых актыўных сённяшніх аўтараў, але і яго жыццёвыя прынцыпы.*

*Супрацоўнік рэдакцыі Мікола БАГАДЗЯЖ сустрэўся з паэтам і задаў яму некалькі пытанняў.*

**М.Б. Віктар, як табе ўдалося стаць членам Саюза пісьменнікаў? Хтосьці дапамог ці проста пашанцавала?**

В.Ш. Хутка ўжо будзе дзесяць гадоў, як мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, і доўгі час я, прызнацца, быў самым маладым у гэтай даволі немаладой арганізацыі. Ды і цяпер я па ўзросту ўваходжу ў дзесятку маладых сяброў СП Беларусі. Як бачыце, хоць і шмат хлопцаў і дзяўчат пішуць, але ў СП не так лёгка ўступіць маладому. Правілы прыёму часта мяняюцца. То могуць прыняць за некалькі публікацый у часопісах, то і некалькі кніжак не дапамогуць. Ды і наогул паняцце малады ў літаратуры вельмі расцягнутае. Напрыклад, У.Някляеў яшчэ пяць гадоў назад лічыўся маладым, а сёння, калі ён пры добрай пасадзе, — жывы класік. Думаю, што і А.Сыс будзе маладым паэтам яшчэ гадоў дзесяць. Такі ж лёс чакае і многіх маіх сяброў. Але ці так ужо дрэнна быць маладым? Шмат жа паэтаў застаюцца не заўважанымі ні чытачамі, ні самімі літаратарамі. Хто мне дапамог уступіць у СП? Не ведаю. Але выдаць асобную кніжку дапамог Р.Барадулін, які "выцягнуў" мяне з калектыўнага зборніка. Выйшла кніжка вершаў, і мне прапанавалі напісаць заяву ў СП. Напісаў, сабраў патрэбныя паперы — і мяне прынялі. Мне было тады 22 гады. З прыняццем у СП у маім жыцці шмат што змянілася. Да гэтага я быў амаль што бомжам, і не жыў, а існаваў на тое, што дадуць мне за мае вершы і што пашлюць Бог і сябры. Потым я паехаў вучыцца ў Маскву, а пасля вучобы адразу стаў працаваць у часопісе "Беларусь". Я быў нават выбраны старшынёй прафкома СП Беларусі. А каб не быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў, то, магчыма, і сёння, як некаторыя мае знаёмыя, бадзяўся б па вуліцах і рэдакцыях з торбачкай, у якой былі кніжкі і сшыткі з вершамі. Лічу, што для творцы карысна апусціцца ў пекла і падняцца ў рай дзеля таго, каб затым быць паміж чорным і светлым... і тварыць.

**М.Б. Ці не лічыш ты сябе больш таленавітым паэтам, чым іншыя?**

В.Ш. Часам бывае і такое. Успамінаю Ю.Кузняцова, які прыходзіў у Літінстытут і, выступаючы перад намі, казаў, што ён самы лепшы паэт у Расіі. Я не магу такога сказаць услых, і усё ж бывае, што таіць, думаю, што я калі не першы, то ў пяцёрку лепшых сучасных паэтаў уваходжу. Магчыма, ад сціпласці я не памру, але...

**М.Б. Раней сапраўдны майстар (няхай гэта мастак, пісьменнік, рамеснік і г.д.) з радасцю ўспрымаў весткі аб тым, што з'явіліся маладыя таленты, і імкнуўся ім дапамагчы. У наш жа час, калі верыць "кулуарным" размовам, "зубры ад літаратуры" не толькі не радуюцца з'яўленню маладых талентаў, а, наадварот, усімі даступнымі ім метадамі глушаць, зажымаюць моладзь. Ці адчуваў ты, Віктар, штосьці падобнае? Ці быў хоць адзін чалавек, які паспрабаваў перашкодзіць табе?**

В.Ш. Калі гэта — раней?.. Дзесяць гадоў назад, ці сто? Лічу, што ва ўсе часы былі ўсялякія людзі сярод творцаў — і добрыя, і дрэнныя, як у творчасці, так і ў адносінах да сваіх сяброў і калег. Маладым ніколі не было лёгка, бо часцей за ўсё маладое — гэта новае, якое часта не даспадобы тым "зубрам ад культуры", якія вырашаюць нешта ў гэтым жыцці. Мне таксама было не вельмі каб і лёгка, хаця не магу сказаць, што мяне заціскалі старэйшыя. Ад старэйшых адчуваў падтрымку. Праўда, толькі слоўную, але мне і гэтага хапала. За тое ад саміх маладых, як сам, даводзілася чуць вельмі шмат дрэннага: пра мяне (відаць, як і пра многіх) распускаліся розныя плёткі (магчыма, такія і цяпер ходзяць, але іх я ўспрымаю як належнае), мяне папракалі, што шмат друкуюся. А хто не дае друкавацца іншым? І калі маіх вершаў сорак надрукуюць за год, то няўжо гэта так многа? У іншых жа друкуюцца падборкі большыя. Я нікому не зайздрошчу: ні тым з майго пакалення, у каго ўжо каля дзесятка кніг, ні лаўрэатам, ні тым, у каго добрыя пасады. Магчыма, таму, што ў мяне амаль усё ці ёсць, ці ўжо было. Цяпер магу спакойна працаваць.

**М.Б. Лічыцца, што вершы – справа маладых. Можна прывесці велізарны спіс славутых празаікаў, якія пачыналі, як паэты, а потым, пасталеўшы, "даспелі" для прозы. Ці не збіраешся ты з часам перайсці на прозу?**

В.Ш. І я так лічу, што вершы паэт можа пісаць толькі да гадоў 45, а потым ці прозу, ці вершы ў прозе, як А.Разанаў, ці У.Арлоў, ці той жа — з маладых — Алесь Давыдаў.

Прозу і цяпер пішу. Ёсць нейкія накіды апавяданняў. І яшчэ. Адкрыю невялічкую таямніцу: вяду дзённік, які пачаў яшчэ ў 1978 годзе. Запісваю ўсё, што чую ў размовах з пісьменнікамі. Прасцей, вяду літаратурны летапіс нашага часу. Магчыма, ён будзе больш каштоўным за ўсе мае вершы. Мару напісаць раман, чытаючы які хацелася б плакаць і смяяцца.

**М.Б. Як ты ставішся да славы? Ці лічыш нармальным імкненне літаратара да яе?**

В.Ш. Што такое слава — для сябе, як ні дзіўна, не вызначаў. Не хачу славы, як у П.Броўкі ці ў каго іншага. Для мяне ідэал славы — гэта слава Ул.Караткевіча. Да славы імкнуцца не трэба. Яна сама прыйдзе, як зараз прыходзіць да гісторыка Міколы Ермаловіча. Трэба працаваць, а там — час пакажа.

**М.Б. Ці падабаецца табе, што з тваіх вершаў робяць песні? Ці заўсёды, на твой погляд, чужая музыка адпавядае тваім словам?**

В.Ш. З усіх маіх песень, якія гучаць у эфіры, толькі адна, самая першая і самая папулярная "А ў гасцях" (муз.Зм.Яўтуховіча) напісана на аснове верша. Усе астатнія створаны "на рыбу", таму часцей за ўсё музыка і словы адпавядаюць адзін аднаму. Але, як бы там ні было, не лічу сябе паэтам-песеннікам. Паэзія і тэксты песень — гэта вельмі розныя рэчы.

**М.Б. Ці ёсць у цябе пачуццё гумару?**

В.Ш. Як у нармальнага чалавека, у мяне ёсць такое пачуццё. На жарты не крыўдую, і калі ў мяне добры настрой — сам люблю пажартаваць.

**М.Б. Як ты, у такім разе, ставішся да пародый на твае вершы?**

В.Ш. Да пародый на мае вершы стаўлюся станоўча. Пародыя — гэта ж тая самая рэклама. Праўда, не трэба забывацца тым, хто піша пародыі, што і пародыя павінна быць мастацкім творам, а не звычайнай халтурай. У нас два пакуль сапраўдныя парадысты, да якіх я станоўча стаўлюся, — гэта Георгій Юрчанка і Міхась Скобла. Астатнія парадысты — пародыі на пачынаючых парадыстаў. Праўда, і сярод іх ёсць вельмі прыстойныя.

Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у грамадскай прыёмнай штотыднёвіка "Чырвоная змена" (Дом друку, праспект Ф.Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-56-53.

Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь МАСАРЭНКА.

*Рашэнне, якое прыняло Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, не з'явілася громам сярод яснага неба. Усё часцей гучыць беларуская мова ў працоўных калектывах, проста на вуліцы. Але ж для арміі, трэба згадзіцца, такі крок у нейкім сэнсе рызыкоўны. Афіцэры, напрыклад, — у большасці сваёй прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей.*

*Незвычайныя аспекты гэтай праблемы закранае гутарка супрацоўніка прэс-цэнтра МА РБ УЛАДЗІМІРА РУДЗЕНКІ з міністрам абароны Рэспублікі Беларусь*



## Генерал-палкоўнік Павел КАЗЛОЎСКІ:

# "АДСТУПАЦЬ НЯМА КУДЫ..."

### У нацыянальным войску пачынаецца Адраджэнне

**– Павел Паўлавіч, стварэнне ўласных Узброеных Сіл – працэс складаны, часта супярэчлівы. Адным словам, задач хапае, а тут яшчэ чарговая далучылася – вывучаць дзяржаўную мову...**

— Пытанне нацыянальнага адраджэння — надзвычай важнае для нас. Правільна зазначыў нехта з вучоных: яшчэ крыху — і адраджаць не будзе чаго. Таму нельга марудзіць.

Не будзем звяртацца да гістарычных вытокаў і шукаць вінаватых у тым, што мы вымушаны выратоўваць сваю культуру, мову, аднаўляць нацыянальны гонар, абуджаць самасвядомасць. Цяпер галоўнае не ў прычынах, а ў пошуку шляхоў да захавання гістарычнай спадчыны, узбагачэння культурных здабыткаў нашых продкаў. Армія, безумоўна, не можа заставацца ў баку ад набіраючых моц працэсаў. Бо яна, па-першае, дзяржаўная структура і падпарадкоўваецца законам. А па-другое, армія заўсёды ажыццяўляла выхаваўчую функцыю. Тут загартоўваюцца маладыя воіны, становяцца сапраўднымі грамадзянамі. Мова, культура адыгрываюць у гэтым найвялікшую ролю.

Распрацоўкай праграмы вывучэння і пераходу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на дзяржаўную мову займалася спецыяльна створаная рабочая група. Адбыліся сустрэчы з народнымі дэпутатамі, прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый, вывучаліся прапановы з войскаў. На калегіі міністэрства мы яшчэ раз узважылі свае магчымасці і прынялі адпаведную пастанову. Цяпер, як кажуць, адступаць няма куды, трэба выконваць праграму.

**– Што ўяўляе сабой праграма?**

— Яна разлічана дзесьці на шэсць год, уключае шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на стварэнне ўмоў для вывучэння роднага слова, а потым і выкарыстання дзяржаўнай мовы ў службовых зносінах, на занятках баявой падрыхтоўкай, пры нясенні вартавой службы. Патрэбна арганізаваць выданне адпаведных дакументаў на беларускай мове, статутаў, адкрыць у воінскіх часцях пакоі для самастойнай працы, пры дамах афіцэраў — гурткі мовазнаўства.

Вядома ж, неабходна падабраць спецыялістаў, набыць аргтэхніку. Пачынаем жа з нуля. Адсюль і падрыхтоўчы перыяд. Ён працягнецца прыкладна паўгода.

Належным чынам зменены планы камандзірскай падрыхтоўкі. У іх прадугледжваюцца спецыяльныя лекцыі па гісторыі Беларусі, нацыянальнай культуры. Тэмы па гістарычнаму мінуламу, па вывучэнню традыцый беларускага народа ўвайшлі ў планы грамадска-гуманітарнай падрыхтоўкі салдат і сяржантаў.

Зменіцца з цягам часу і мастацка-эстэтычнае афармленне тэрыторыі ваенных гарадкоў розных вайсковых устаноў. Яны набудуць, можна сказаць, беларускі твар.

Неяк зазірнуў у бібліятэку адной воінскай часці. Нямала добрых кніг убачыў, часопісы розныя ёсць, свежыя газеты. Але на беларускай мове нічога не знайшоў. Сорам! Потым і ў іншых месцах цікавіўся. Карціна адна і тая ж: вайсковыя бібліятэкі не маюць кніг на роднай мове. Не выпісваліся раней і беларускамоўныя газеты і часопісы. Каго абвінавачваць? Камандзіраў, бібліятэкараў? Яны ж старанна рабілі сваю справу. Хіба іх віна, што зусім іншай была палітыка? І цяпер вырашана пры камплектаванні кніжных фондаў 50 працэнтаў грашовых сродкаў выкарыстоўваць для закупкі кніг на беларускай мове.

**– Павел Паўлавіч, але ж згадзіцеся: авалоданне дзяржаўнай мовай, культурнай спадчынай – справа даволі складаная. Ці здолее армія пры ўсім жаданні самастойна вырашыць шматлікія праблемы?**

— Да гэтага імкнёмся. Аднак тут патрэбна канкрэтная дапамога іншых міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў, інтэлігенцыі. Упэўнены, што яны пойдуць нам насустрач.

— Між тым, раней рэгулярна праводзіліся сустрэчы воінаў з творчай інтэлігенцыяй, ад якіх моцна аддавала "паказушным духам".

**– Такі, на жаль, быў час.**

Сёння ў нас іншыя надзеі на шэфскую дапамогу. Пісьменнікі, мастакі, артысты заклікаyы несці ў салдацкія масы роднае слова, здабыткі фальклору, суквецці беларускай культуры. Воіны, дакрануўшыся да нацыянальнага багацця, абавязкова прасякнуцца павагай да свайго народа, усвядомяць неабходнасць абароны Айчыны. Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, у сваю чаргу, змогуць пачарпнуць матэрыял для новых твораў, атрымаюць магчымасць паназіраць за вайсковай службай, адчуць яе, як кажуць, знутры. Такія кантакты трэба нам наладзіць. Чым хутчэй, тым лепш.

**– Не апошняе месца займае ў вайсковай службе добрая страявая песня. Яна адганяе стомленасць, надае бадзёрасці. Але няма ў нас сваёй страявой песні. Ці будзе?**

— Упэўнены, будзе. Па радыё, тэлебачанні ўсё часцей гучаць эстрадныя песні на беларускай мове. Цудоўныя, дарэчы, песні. Моладзі яны падабаюцца. У нас ёсць каму ствараць сапраўдныя ў мастацкім сэнсе творы і для арміі. Не так даўно сустракаўся са старшынёй Саюза кампазітараў Беларусі Ігарам Міхайлавічам Лучанком. Якраз вялі размову аб тым, як наладзіць у арміі песенную творчасць, арганізаваць самадзейнасць. Тут таксама ёсць пралікі, трэба хутчэй наверстаць упушчанае за апошнія гады. Трэба, каб у войску праводзіліся фестывалі песні, розныя творчыя конкурсы.

Турбуе мяне культура афіцэраў увогуле. Яна вельмі нізкая. Часта задумваюся: у чым справа? Дамы афіцэраў у гарнізонах абсталяваны сучаснай тэхнікай, ёсць умовы для карыснага адпачынку. Значыць, неабходна шукаць нешта новае.

**– Дарэчы, новае – гэта часта забытае старое...**

— Сапраўды. Якія ёсць цудоўныя абрады... Напрыклад, народныя святы, тое ж Купалле. Умела правесці яго ў гарнізоне — абыякавых не застанецца.

**– Дык верыце, Павел Паўлавіч, што мы адродзімся, не загінем?**

— Без веры нельга жыць. Але тут і працаваць трэба. Спадзяюся на разуменне кіруючых вайсковых структур, прыклад камандзіраў усіх рангаў. Калі яны пакажуць, як неабходна адносіцца да дзяржаўнай мовы, да культуры народа, усвядомяць усю важнасць вялікай справы, якая пачата ва Узброеных Сілах Беларусі, — мэта будзе дасягнута.

*Паміж намі, жанчынамі*



**У апошні час мне ўсё часцей і часцей здаецца, што ўсе мы, прадстаўніцы цудоўнай паловы чалавецтва, маладыя, сталыя, прыгожыя і не вельмі, нібы той застылы, змярцвелы сад аголеных дрэў: жывём толькі сваім унутраным, нікому не вядомым жыццём**



# У ЧАКАННІ ВЯСНЫ

ДЗЯЎЧЫНКА закінула за плячо спартыўную сумку, ад чаго яе кароткая спаднічка паднялася яшчэ вышэй і зусім схавалася пад аб'ёмістым світэрам. Дзяўчынка паплыла да выхаду, лёгка і грацыёзна перастаўляючы доўгія ногі, і набітая прадуктамі сумка здавалася ўсім, хто ішоў насустрач, чымсьці бязважкім, як бы дэталлю яе ўбрання...

І раптам, перакрываючы гул мітуслівага магазіннага натоўпу, услед за дзяўчынай панеслася: "Ах ты, дрэнь, ах ты, шлюха... Паглядзіце — яна ж без спадніцы! Вось з-за такіх і саджаюць ні пра што нашых хлопцаў...".

Дзяўчынка ўцягнула галаву ў плечы і выскачыла з магазіна.

Неахайны мужчына ва ўзросце, з перакошаным тварам і ў такім самым перакошаным касцюме яшчэ доўга сатрасаў паветра, абліваючы дзесяціпавярховай нецэнзуршчынай "усіх гэтых шлюх". Быў момант, калі я шчыра пашкадавала, што не нарадзілася мужчынам: хацелася падысці і добра страсянуць гэтага заўзятага прыхільніка маральнасці...

ПАВАЖАНЫЯ чытачкі! Тая з вас, якая хоць раз у жыцці апранала кароткую спадніцу, мяне зразумее. Успомніце, што вы адчуваеце ў першую чаргу, убраўшыся ў гэты прывабны прадмет жаночага туалету і прайшоўшы па вуліцы? Успомнілі? Усё правільна. Вы камплексуеце, вы напружаныя, вы не можаце расслабіцца, вы ў пастаянным чаканні заўвагі (прыемнай і не вельмі) або асуджальнага позірку... На вас глядзяць, вас выдзяляюць з шэра-бурага натоўпу, але выдзяляюць у асноўным не як мастацкі твор, не як прывабную жанчыну, на якую проста прыемна паглядзець. На вас пазіраюць або з непрыкрытым жаданнем, або з зайздрасцю і, як вынік, нянавісцю. Падсвядомай і не толькі. І ў гэтай выбухованебяспечнай сексуальна-ненавісніцкай атмасферы вы прабудзеце да той пары, пакуль не зменіце свой знешні выгляд. Сціплая "клетка", неакрэсленая даўжыня (зразумела, за калена), невыразны колер — вось тое, што якраз падыдзе, што не выкліча раздражнення стомленых кабет і не абразіць густу патрабавальных мужчын з ордэнскімі планкамі. На ногі — стаптаныя туфлі, у кожную руку — па сумцы. Для поўнага завяршэння партрэта тыповай прадстаўніцы прыгожага полу ссутульцеся. І — уперад сямімільнымі крокамі, упэўнена ступаючы на пятку і рассякаючы паветра моцным бюстам...

Але я не пра гэта. Я — пра жаночую годнасць увогуле. Лічыцца, напрыклад, што форма не адлюстроўвае зместу. Не веру. Яшчэ як адлюстроўвае. Яркае, прыгожае, арыгінальнае — прыкмета добрага густу, індывідуальнасці, фантазіі. Невыразнае, размытае, бясформеннае — адзнака такога ж убогага па змесце ўнутранага свету. Толькі не трэба спасылацца на недахоп фінансаў і дэфіцыт якасных тавараў. Калі вы сапраўдная жанчына — выкручвайцеся, камбініруйце, фантазіруйце, перашывайце — але не дазваляйце сабе зліцца з натоўпам і ў ім згінуць. Існуе безліч спосабаў пазбегнуць такой сумнай долі. Але перш чым пачаць іх прымяняць, трэба гэтага захацець. Вось тут і высвятляецца, што хочуць далёка не ўсе. Прывыклі, зжыліся з роляй "шэрай мышкі", і любое адхіленне ад агульнапрынятай нормы "вырубаюць" (у думках) на корані.

Дык у чым жа справа?

НЕ ПАГЛЫБЛЯЮЧЫСЯ ў гісторыю, паспрабую растлумачыць свае думкі ў некалькіх словах.

У перыяд вялікай сацыялістычнай штампоўкі, калі шліфаваліся і падганяліся пад агульны стандарт не толькі дэталі і машыны, але думкі і пачуцці, месца сваё ўласнае меркаванне было быццам бы неяк непрыстойна. Калі ў калектыве, скажам, усе пілі, то нельга было не піць. Калі ўступалі ў камсамол, то нельга было не ўступаць. Калі ехалі "ўзнімаць" цаліну, закладваць будоўлю стагоддзя або паварочваць раку — нельга было не ехаць. Успомніце ідэал жанчыны 50-х, 60-х, 70-х... Сціплая працаўніца ў шырачэзных штанах і бясформеннай робе бадзёра крочыць зранку на роднае прадпрыемства, каб выдаць там дзве тры нормы. Замест асабістага жыцця — грамадскае, замест мужа — родны калектыў, замест жаночай прывабнасці — маральнае аблічча будаўніка светлай будучыні. І нельга было не адпавядаць, не імкнуцца да зададзенага ідэалу... Родная краіна, родны ўрад і родная прамысловасць рабілі ўсё магчымае, каб забіць у жанчыне жанчыну, ператварыць яе ў прыдатак машыны, у механізм для нараджэння патомства, у бясполую істоту... На шчасце, некаторыя супраціўляліся. Іх не заахвочвалі ні ордэны маці-гераінь, ні пуцёўкі на ўдарныя будоўлі пяцігодкі, ні ганаровыя граматы і званні. Ім хацелася быць проста жанчынамі з адной адзінай патрэбнасцю — кахаць і быць каханымі. У "бой" з апошнімі ўступала "цяжкая" артылерыя — лёгкая прамысловасць, дэманструючы ў барацьбе супраць жанчыны цуды вынаходлівасці. Скажыце, ці ж можна было доўга заставацца каханай у айчынных бюстгальтарах шырынёй у далонь або ў панталонах, ледзь крыху карацейшых за спадніцу? Самыя шчаслівыя мелі доступ да замежных рэчаў, да халадняватага шоўку нямецкіх камбінацый, да найтанчэйшых французскіх панчох і найдалікатнейшых духоў, да элегантных італьянскіх боцікаў, якія рабілі стройнай нават самую непрывабную нагу. Але шчаслівых было мала. Куды больш — астатніх, якім прыходзілася задавальняцца нязграбным айчынным таварам.

З таго часу наша псіхалогія па вялікаму рахунку не вельмі змянілася.

Вядома, што ўзровень цывілізацыі той ці іншай краіны вызначаецца менавіта яе адносінамі да жанчыны і жаночых праблем і ступенню вырашальнасці іх. Смешна, але да нядаўняга часу галоўнай праблемай нашых фемін лічылася нераўнапраўе з мужчынамі. І каб выправіць гэта "ганебнае" становішча, жанчыну пасылалі ў космас і апускалі ў забой, саджалі за руль і ставілі ля станка. Паняцце "хатняя гаспадыня" лічылася ледзь ці не сінонімам слова "дармаед". Ды вы самі ўсё гэта цудоўна ведаеце. Я пра іншае.

Пра тое, што па свайму ўзроўню адносін да жанчыны мы ўсё яшчэ знаходзімся недзе ў каменным веку.

БЕЗУМОЎНА, нашы жанчыны тэарэтычна маюць мноства правоў, але рэалізаваць на практыцы атрымліваецца толькі абавязкі. Нідзе, ні ў адным законе не гаворыцца аб праве жанчыны быць... жанчынай і аб абавязках дзяржавы прадастаўляць ёй усё неабходнае для гэтага.

Здаецца, дзяржаўным мужам, занятым вялікай палітыкай, ніколі не зразумець нашых штодзённых праблем. Па-першае (і па-апошняе), таму, што яны — мужчыны і ніколі ў жыцці не перажывалі (прабачце за адкрытасць) нашай, напрыклад, штомесячнай пяцідзённай "радасці". Калі замест таго, каб ісці на работу, носішся, як звар'яцелая, ад аптэкі да аптэкі, спрабуючы набыць для зразумелых мэтаў хоць што-небудзь. "Што-небудзь" у апошні час — гэта звычайны бінт коштам 15 рублёў за штуку. Шляхам нескладаных матэматычных падлікаў прыходзім да вываду, што "штук" трэба як мінімум дваццаць. Гэта — 300 рублёў штомесячна. Цікава, ці ўлічваўся пры вызначэнні пражытачнага мінімуму такі неабходны пункт жаночых расходаў? Вельмі сумняваюся, паколькі вышэйпамянёны "мінімум" аказаўся аднолькавым для абодвух полаў. А магчыма, падобныя жаночыя затраты прыраўняліся да якіх-небудзь спецыфічных мужчынскіх? Напрыклад, да расходаў на піва і цыгарэты?

Безумоўна, калі ў аптэках няма валідолу і элементарных таблетак ад галаўнога болю, неяк сорамна крычаць на ўсіх перакрыжаваннях пра адсутнасць якасных (а значыць — імпартных) спіралей і іншай процізачатковай драбязы. Адным абортам больш, адным менш... Каго гэта хвалюе? А не хочаш — раджай, родная... Можа, яно і нічога, з цягам часу пераменіцца ўсё... Дзеці — кветкі жыцця... Чаго ўжо там — раджай, запрагайся, закасвай рукавы, забудзь, колькі табе год і якога ты полу. Карацей, уставай на смяротны бой, каб дзеці выжылі і выраслі хоць бы больш-менш здаровымі.

...Ды што гэта я — усё пра сумнае ды пра сумнае? Трэба і пра добрае. Днямі бачыла айчынны купальнік на вузенькіх шлеечках і з трусікамі-бікіні. Расцём! На паліцах спецыялізаваных жаночых магазінаў пачалі з'яўляцца ўпаўне прыстойныя бюстгальтары роднай "Мілавіцы". Адно засмучае: засцежкі як былі пластмасавымі (і таму хутка ламаліся), так і засталіся. Але гэта ж дробязь у параўнанні з тым, што ёсць да чаго гэтыя засцежкі прышываць! Зноў жа — калготкі... Яны сталі больш тонкімі і прыемнымі навобмацак, але пад кароткую спадніцу ўсё роўна не надзенеш (жанчыны мяне зразумеюць)... І толькі ў аптэках па-ранейшаму глуха. Затое на рынку мардастыя мужыкі і размаляваныя бабы бойка гандлююць на штукі і ўпакоўкамі з надпісам "tampax" па шалёных цэнах.

Дарэчы, не так даўно адна мая знаёмая вярнулася з Германіі і прывезла ў якасці нагляднага дапаможніка некалькі сімпатычных яркіх папяровых пакецікаў, непрыкметна "канфіскаваных" ёю ў жаночым туалеце. Пакецікі знаходзіліся там у вялікай колькасці і прызначаліся для выкарыстаных жаночых тампонаў. "Праклятыя капіталісты" не абышлі сваёй увагай такую "дробязь", аб якой нашы дзяржаўныя дзеячы калі і здагадваюцца, дык выгляду не падаюць, бо "непрыстойна". Затое практычныя беларускія турысты з поспехам выкарыстоўвалі яркія паперкі для загортвання харчовых прыпасаў. З чым мы іх і віншуем.

...Памятаеце гістарычны "тэлемост", на якім наша суайчынніца з гонарам канстатавала, што, маўляў, "сексу ў нас няма"? Здаецца, у чымсьці яна мела рацыю...



**Наталля СТРАЛКОВА.**

"Варшаўскі мост" 1.

# МІЛІЦЫЯ ДАЕ "ДАБРО"



**Пра мытню пісалі і пішуць практычна ўсе выданні. А вось пра міліцыю, якая стаіць на граніцы, матэрыялаў у друку амаль няма. Між тым, у першую чаргу менавіта яна сустракае вялікую чаргу аўтамабіляў і аўтобусаў, якія днём і ноччу літаральна штурмуюць пагранічны пераход у Брэсце "Варшаўскі мост".**



— За маё дзяжурства праз міліцэйскі кантрольна-прапускны пункт праходзіць больш за трыста машын і каля сотні аўтобусаў, - гаворыць камандзір узвода лейтэнант Мікалай Мікалаевіч Руцкі. — Гэта ў звычайны дзень. Напярэдадні ж выхадных паток аўтатранспарту ўзрастае. Асабліва ён вялікі, калі пускаюцца чуткі, што граніцу нібыта вось-вось закрыюць. У такія часы мы працуем без перапынку. Дывы і самі бачыце...



Так, бачым.

Бясконцая чарга працягнулася больш за кіламетр. "Жыгулі" і "Фіяты", "Волгі", "Масквічы" і "Мерседэсы" стаяць тут гадзінамі, а то і суткамі. Гаспадары перагружанай самым розным дэфіцытным таварам тэхнікі бавяць час у асноўным побач з дарогай. Прама на сенакосе загараюць, гуляюць у карты, спяць, п'юць. Балазе, Брэст зусім блізка, вінна-гарэлачная прадукцыя ёсць амаль у кожным кіёску. Ды і самі "турысты" вязуць столькі выпіўкі, што хапіла б, каб аддалі, на некалькі добрых вяселляў.

— П'яныя на граніцы — з'ява ўжо прывычная, — заўважае Мікалай Мікалаевіч. — У асноўным гэта замежныя грамадзяне. Бывае, што яны бунтуюць, патрабуюць прапусціць іх без чаргі. Прыходзіцца супакойваць дэбашыраў. Калі патрабуецца, выклікаем дапамогу з горада.

Людзі ёсць людзі. І дома, і на мяжы яны застаюцца ў палоне сваіх звычак, прытрымліваюцца тых законаў і правіл, па якіх прывыклі жыць заўсёды. І праблемы ўсяго грамадства быццам сканцэнтраваны тут, на аўтапераходзе "Варшаўскі мост". І, мажліва, самая небяспечная з іх — гэта рэкет. Маладыя натрэніраваныя хлопцы ў скураных куртках не толькі "абкладваюць падаткамі" бізнесменаў, якія часта ездзяць за мяжу, але і спрабуюць без затрымкі правесці цераз міліцэйскі кантрольна-прапускны пункт сваіх людзей. Міліцыя на іх шляху ўстае першай, рызыкуючы і здароўем, і жыццём. І гэта не проста словы. Нядаўна з Польшчы прывезлі некалькі нябожчыкаў: наша айчынная і жорсткая мафія "дастала" сваіх крэдытораў і там. Сляды яе вядуць у Брэст.

Так, міліцыі, якая дзяжурыць на граніцы, не пазайздросціш. Турбот хоць адбаўляй, а зарплата звычайная. Як сказаў адзін паставы сяржант, плацяць роўна столькі, колькі патрабуецца на сціплае жыццё. І гэта нягледзячы на тое, што міліцыя дапамагае таможні вяртаць незаконна вывозімыя каштоўнасці на мільёны рублёў...

Міліцэйскі пост — гэта і калектыў, і невялічкая службовая гаспадарка, і своеасаблівая мытня. Дзяжураць тут людзі самаадданыя і высокапрафесіянальныя. Мікалай Мікалаевіч называе Аляксандра Марадзюка, Міхаіла Мацука, Міхаіла Барсука, старшых сяржантаў Валерыя Курцянкова і Аляксандра Цімашэнку, малодшага сяржанта Сяргея Старыкевіча.

— ...Пане, пане, можна на хвілечку? — звяртаецца да М.М.Руцкага пажылая палячка. І ён ідзе выслухоўваць чарговую просьбу.

**А.РАЗАНОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ:** перад міліцэйскім кантрольна-прапускным пунктам.

**Фота П.СУЛІМЫ.**





# ВЯСКОВЫ РЭКЕТ

ГУМАРЭСКА

Саўгасны пастух дзед Ігнат атрымаў па восені прэмію. Грошы і чэк на пазачарговае набыццё відэамагнітафона ўручалі па спісе ў райвыканкаме. Жонка дзеда Ігната гадоў колькі як памерла, сыны жылі ў горадзе. Але відэамагнітафон ён вырашыў набыць, каб потым падарыць унукам.

Праз месяц да Ігната завітаў госць. Дзед якраз стаяў на ганку, калі падкаціла чырвонае аўто.

— Здароў, дзед!

— Прывітанне.

— Кажуць, ты кароў пасвіш?

— Ды што сказаць,— дзед адкалупнуў валёнкам лядыш.— Надвор'е зараз неспрыяльнае. А так канешне...

— Здаецца, трапіў куды трэба. Прыехаў да цябе, дзед, наконт відэамагнітафона.

— Цікава, цікава... Калі ласка ў хату.

Госць дзеда Ігната — таўстаморды хлапец з маленькімі вочкамі — як толькі ўвайшлі ў хату, накіраваўся да ложка. Побач з ім стаяла перавязаная вожкамі скрынка відэамагнітафона.

— Слухай уважліва, стары, бо ў мяне мала часу. Зараз ты атрымаеш грошы. Рубель у рубель колькі гэта каштуе. А сам відзік аддасі мне.

— Калі вы майстар з магазіна, то навошта мне было перці з горада апарат, каб вось зараз аддаць назад.

— Які табе магазін, дзед. Ты тэлевізар глядзіш?.. Тады павінен ведаць, хто такія рэкеціры. Адзін з іх перад табой. Ну дык што, згодзен?

Перад тварам дзеда Ігната апынуўся здаравенны кулак.

— Яно-та можна, шаноўны грамадзянін. Куды мне, старому, гэткая цацка.

— Ось і добра. Падабаецца мне вясковы люд сваёй падатлівасцю.

Хлопец хуценька адлічыў грошы і аберуч ухапіў за вожкі скрынку.

— Ого! Твой відзік, дзед, укамплектаваны па экспартным варыянце. Цяжкаваты.

— Праўду кажаш, хлопчык. Гэткі тавар і на міжнародны кірмаш павезці не сорамна.

Дзед правёў госця да варот. Накінуў на хвортку клямку.

Але не паспеў узысці на ганак, як у вароты пастукалі і голас раз'юшанага "госця" запытаў:

— Ты што, порхаўка старая, замест апаратуры паклаў? Дзе мае грошы?

Дзед Ігнат адлічыў колькі не то і перакінуў праз плот.

— Годзе жартаваць. Дзе яшчэ трыста рублёў?

— Дык а бульба? Такога гатунку, як я ў скрыначку наадбіраў, па ўсёй вёсцы не знойдзеш. Сам жа кажаш — экспартны варыянт.

— Адчыняй, стары, па-добраму, бо зараз ад хварткі нічога не застанецца.

— Чакай крышку. Вось толькі пабуджу сакратара.

Дзед Ігнат зайшоў за кут хаты і адчапіў ланцуг з шыі ваўкадава, з якім улетку пасвіў статак...

Калі мужыкі збіраюцца каля саўгаснай канторы, абавязкова ўзнікае спрэчка — колькі колаў чырвонага аўто перакусіў дзедаў Кабыздох. Ігнат маўчыць і толькі пасміхаецца. Старыя вяскоўцы — людзі сціплыя.

Уладзімір ДЗЯЖКО.




## Тлумачальны слоўнік "ГАРЧЫЧНІКА"

А

Аўтамат — камп'ютэрная абраза

Б

Бульвар — суп-булён

Бомба — звон

К

Кракавяк — жыхар Кракава

С

Сыраежка — аматар сыру

Ч

Чортапалох — крыж.

Алесь ЯСЮЧЭНЯ.




Міхась, чаму зноў спазніўся на ўрокі?

— Таму што матуля прымусіла мяне памыць шыю, але я абяцаю, што гэта было ў апошні раз, Мар'я Іванаўна...

* * *

— Вова, назаві нам два займеннікі!

— Хто? Я?

— Добра, малайчына, сядай.

Падрыхтаваў Кастусь ВАКУЛЕНКА.



Да ведама падпісчыкаў "ЧЗ": пачынаецца падпіска на кулямёты аддзела сатыры і гумару.

# КІНААФІША

## "МІЛЫ ЭП"

У аснову сцэнарыя гэтай новай каляровай мастацкай кінастужкі, створанай рэжысёрам Алегам Фаміным у МК фірме "Граніт" пры ўдзеле кінастудыі "Беларусьфільм", пакладзена аднайменная аповесць Генадзя Міхасенкі, якая некалі была апублікавана ў часопісе "Юность". Герой фільма і аповесці – старшакласнік Аскольд Эпаў, або, як называлі яго прыяцелі, Эп. Эрудзіраваны, у меру іранічны, дзякуючы залатым рукам і светлай галаве здольны на ўсялякія тэхнічныя выдумкі. І сям'я ў Эпа больш чым шчаслівая – не проста мама, якая любіць, і клапатлівы бацька, а цікавыя людзі з пакалення "шасцідзесятнікаў". Але добраму хлопчыку з добрай сям'і стала раптам сумна. І хадзіць у школу яму таксама стала нецікава, надакучылі шэрасць і "абязлаўка". Праўда, нельга сказаць, каб у Эпа былі бліскучыя веды. З англійскай, напрыклад, справы былі зусім дрэнь. Неяк ён нахаміў маладзенькай настаўніцы, а потым пад уплывам камсорга і аднакласнікаў пайшоў да яе дадому прасіць прабачэння. Дзверы Эпу адчыніла сястра Святланы Пятроўны Валя... Далей дзеянне развівалася па класічных канонах меладрамы: знаёмства, імгненная ўзаемная сімпатыя, каханне, якое пачало нараджацца, першы трапяткі пацалунак...

Галоўныя ролі выконваюць Міхаіл Паламнік, Іна Хрулёва, Ігар Юрап, Аляксандр Стрыжэнаў, Ірына Рабцава.

## "ГЕНІЙ"

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка сумеснай вытворчасці ТА "Вілон" і кінастудыі "Ленфільм".

Да свайго новага фільма, які прадаўжае тэму героя-адзіночкі, з поспехам пачатую ў вострасюжэтнай стужцы "Кат", рэжысёр Віктар Сяргееў выбраў жанр махлярскага дэтэктыва. Як прызнаўся рэжысёр, "гэта перавернутая гісторыя Дзетачкіна ў постперабудовачны час".

Герой фільма Сяргей Нянашаў, у мінулым таленавіты фізік-электроншчык, а зараз дырэктар узорнага магазіна агародніны і сапраўдны геній, чалавек выключнай адоранасці і вострага розуму. Аднак рэдкі талент свой ён праяўляе за мяжой закона. Прычым парушае настолькі вынаходліва, што выклікае да сябе не толькі прафесійную (па абавязку службы), але і проста чалавечую цікавасць у маёра міліцыі Кузьміна...

Яркія вобразы ствараюць у карціне Аляксандр Абдулаў, Ларыса Белагурава, Юрый Кузняцоў, Інакенцій Смактуноўскі, Сяргей Праханаў, Валянціна Талызіна, Анатоль Кузняцоў, Леў Вігдораў.

## "ЧАРНАКНІЖНІК"

... 1691 год. Судовы працэс над ведзьмаком, знаўцам чорнай магіі, Чарнакніжнікам. За сувязь з д'яблам яго прыгавораваюць да жудаснай смерці – спалення "над кошыкам з жывымі кошкамі", як таго патрабуюць сярэдневяковыя каноны.

Мінаюць доўгія трыста гадоў. Ужо ў наш час, у 1991 годзе, Чарнакніжнік уваскрэс і зноў разбушаваўся, марачы стаць адзіным сынам Сатаны. Пачынаецца смяротная пагоня за ім... А аб тым, што адбылося далей, гледачы і даведаюцца, паглядзеўшы вострасюжэтную мастацкую кінастужку "Чарнакніжнік", створаную амерыканскімі кінамайстрамі (аўтар сцэнарыя – Д.Т.Твохі, рэжысёр – Сціў Майнер). Злавеснага Чарнакніжніка ярка ўвасобіў на экране знакаміты Джуліян Сэндз, узыходзячая галівудская зорка. Выдатна сыгралі свае ролі таксама Рычард Гранд і Лоры Сінгер. Фільм насычаны містычнымі і фантастычнымі сцэнамі, уражвае неверагоднымі спецэфектамі і таму глядзіцца з вялікім напружаннем.

## "КАМЕНДАНЦКАЯ ГАДЗІНА"

Гэты каляровы мастацкі фільм таксама стварылі амерыканскія кінамайстры. Сцэнарый яго напісаў Рычард Брэнд, рэжысёр – Сміт Коўэн.

Галоўнымі героямі кінаапавядання з'яўляюцца два браты. У іх абсалютна розныя лёсы. Старэйшы Томпсан – адзін з самых лепшых супрацоўнікаў паліцыі, ад яго не схаваецца ні адзін злачынец. Малодшы брат Майкл трапіў у свой час у дрэнную кампанію, ён займаецца крадзяжом аўтамашын. Але вось у горадзе адбываецца некалькі забойстваў. Ці вінаваты ў іх Майкл?..

Гледачам прапаноўваецца разабрацца ў гэтай няпростай сітуацыі і вызначыць, хто сапраўдны забойца.

Дзяжурны рэдактар Н.СТРАЛКОВА

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ

Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.

ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.

Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак № 30.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12